

# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

16 ЛІСТАПАДА 2001г. № 46/4128 КОШТ 136 РУБ.

## ПАЛІГОН

***Павел ВЕРАБ'ЁЎ: "Не трэба экзальтаваных карысліва-правакацыйных заклікання накшталт: ах, палігон, ах, дакуль будзе працягвацца эксперымент над людзьмі! Нам з радыенуклідамі жыць стагоддзі, а з некаторымі і тысячагоддзі. Значыць, жыць трэба не як набяжыць, а ўсведамляючы сваю годнасць і дамагаючыся належных сродкаў бяспекі".***

**5**

## З КНІГІ "ПАЭТАГРАФІЧНЫ РАМАН"

***Леаніда ДРАНЬКО-МАЙСЮКА***

**8**

## ПРАВА НА АДСЯЛЕННЕ

***Апавяданне Ніны РЫБІК***

**8—9**

## ЛІСТ З ТУРМЫ ПРА КАХАННЕ

***Радзім ГАРЭЦКІ: "13 гадоў таму, 20 лістапада 1988 года, памёр мой Тата — акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Амаль на Дзяды. У гэтыя дні памяць больш яскрава высвечвае яго аблічча, яго постаць, усё яго жыццё..."***

**13**

## БУДЗЬМА РАЗАМ У 2002 ГОДЗЕ!

*Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на першае паўгоддзе 2002 года. Падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1100 рублёў, на тры — 3300 рублёў, на шэсць — 6600 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на тры месяцы — 7500 рублёў, на шэсць месяцаў — 15000 рублёў.*

**Ведамасны індэкс — 63857.**

*Фота Ул. КРУКА*

*Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.*
*Каб светла-светлую яго ніць*
*віць і далей — любоўю, справай дзейнай*
*ды словам, што ад справы неаддзелена.*
*Тварыць!*

*Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.*
*Надзеяй, праўдай, мужным парываннем,*
*высакародным, дружным намаганнем,*
*што потым зоркай у вяках гарыць.*
*Тварыць!*

*Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.*
*Маральны самы, самы натуральны*
*пачатак гэты вось жыццестваральны.*
*Інакш — якая ад жыцця карысць?*
*Тварыць!*

*Матэрыялы, прысвечаныя вядомаму паэту, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Анатолю Вярцінскаму чытайце на* *стар. 6—7.*

## *Саюз мастакоў рыхтуецца да з'езда...*

**У будучы аўторак у малой канцэртнай зале «Мінск», пройдзе чарговы з'езд Саюза беларускіх мастакоў. На з'ездзе чакаецца прысутнасць каля 400 сяброў саюза і гасцей, а ў зале ўсяго 280 месцаў. Такая сітуацыя ўзнікла з-за сённяшняга фінансавага стану Саюза мастакоў, які па праве лічыцца ў рэспубліцы ледзьве не самым матэрыяльна забяспечаным сярод падобных грамадскіх структур. І нездарма. Саюз мае вялікую ўласнасць — гэта і Палац мастацтваў, і Барысаўскі камбінат дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва імя А.Кішчанкі, скульптурны камбінат у Мінску, і Мастацка-вытворчыя камбінаты пры СМ у кожным абласным горадзе і ў Мінску, і некалькі мастацкіх галерэй, Музей Бембеля з выставачнай залай, каля пяцісот майстэрань у Мінску, з якіх 240 — уласнасць саюза, 260 арандуецца ў горада... Усё гэта патрабуе, акрамя аплаты падаткаў, — добраўпарадкавання з году ў год, рамонту і перабудоўкі, догляду, камунальных плацяжоў. Даўно вядома, што вялікая гаспадарка патрабуе сапраўднага гаспадара. Не кожны сярод мастакоў, людзей творчых, летуценных і не заўжды прыдатных для гаспадарчага кіравання, здольны такую вялікую гаспадарку ўтрымаць «на плыву». Таму пытанне, хто стане чарговым старшынёй саюза, вельмі важнае для яго далейшага існавання.**

**Дзесяць гадоў нязменна кіраваў Саюзам мастакоў скульптар Генадзь Буралкін. Зрэшты, менавіта ў час ягонага старшынства Саюз мастакоў захаваў усе свае будынкі і ўласнасць ад «нацыяналізацыі». Сённяшні мэр Мінска, Рэспубліканская камісія па льготах дамагліся памяншэння платы за метр майстэрні як за кватэрны, а не як за вытворчы. Саюз мастакоў атрымаў сёлета ад дзяржавы 7 мільёнаў датацыі праз Канфедэрацыю творчых саюзаў на выставы ды на сацыяльную дапамогу. Напрыклад, мастакі-ветэраны з 1990 г. зусім не плацяць за карыстанне майстэрнямі.**

**Праўда, багатай арганізацыяй Саюз мастакоў не назавеш, запазыка ягоных сяброў самому саюзу сёння складае, па словах Г.Буралкіна, 13 мільёнаў рублёў. Але ўсе прадпрыемствы саюза самаакупныя, а частка галерэй нават прыбытковая. Змяніліся намаганнямі саюза і мытныя адносіны да мастакоў, якія вывозяць свае творы за мяжу. Сёння саюз мае права сам выдаваць спецыяльныя заключэнні аб аўтарстве, а мытныя плацяжы для мастакоў на ўласныя творы ў шэсць разоў меншыя, чым для ўсіх.**

**Натуральна, і нараканняў на дзейнасць саюза шмат. Напрыклад, яшчэ на мінулым з'ездзе ўзнімалася пытанне пра майстэрні на вуліцы Дзімітрава. Будынак у аварыйным стане, без моцнага падмурка, на мяжы літаральнага самаразбурэння. Мастакі, што мелі там майстэрні, атрымалі новыя. Многія засталіся незадаволеныя ні месцам, ні плошчай новых памяшканняў. Зараз на месцы старога будынка фірма «Камкон» за свае сродкі будуе новы, першы паверх будзе цалкам аддадзены саюзу пад галерэю і падсобныя памяшканні (больш за трыста квадратных метраў). Абмен стаўся рэальнасцю, выгодай для Саюза мастакоў. Але, думаецца, сама сітуацыя, па-рознаму ацэненая прэсай са словаў мастакоў, можа стаць на з'ездзе чарговым скандалам. І не яна адна.**

**Хацелася б, канешне, каб сёлета не паўтарылася мінулагодняя пасляз'ездаўская гісторыя. Думалі, што выпусцілі пару і ўсё? Пасля шматлікіх абвінавачанняў КРУ Міністэрства фінансаў правярала фінансавую дзейнасць Саюза мастакоў некалькі месяцаў. Праўда, нічога не знайшлі, нервы толькі папсавалі... А сёлетняя барацьба на з'ездзе чакаецца вельмі вострай. Кандыдатуры называюцца самыя розныя. На жаль, з-за недахопу сядзячых месцаў, журналісты могуць на з'езд не патрапіць. Але, можа, гэта і лепш — не вынесуць "смецця" з хаты..**

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

## *На студэнцкім свяце*

**У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка адбылося студэнцкае свята. На сцэне актавай залы гучалі вершы, песні, жарты, прыколы і іншыя творы студэнцкага фальклору. Так, хлопцы-філолагі, якія паступілі на 1-ы курс, былі ўзнагароджаны "за смеласць" памятнымі медалямі. А дзяўчаты-танцоркі атрымалі шмат апладысментаў і кветак...**

**Перад студэнтамі выступілі госці свята — кампазітар Алег Елісеенкаў і паэт Уладзімір Мазго, якія парадавалі прысутных сваімі песнямі і вершамі.**

**У. ЛЯСНЫ**

МАНАЛОГІ

# Жаночы погляд Ганны Кісліцынай

***Часта можна пачуць, што няма літаратуры мужчынскай і жаночай, а ёсць сапраўдная і несапраўдная... Аднак нават калі сёння й няма жаночай паэзіі, то чаму б яе не стварыць: больш палкую і шчырую, больш пранікнёную, наогул больш эмацыйную і пачуццёвую, урэшце, бадай што, і больш жыццёвую па прычыне ўсяго гэтага. Ганна КІСЛІЦЫНА лічыць, што вартасць літаратуры ў многім прадвызначана тым, як праяўляецца ў тэксце пол аўтара. Яна верыць у тое, што эпітэт "жаночая" у хуткім часе перастане ўспрымацца, як слова з негатыўным адценнем.***

***Ганна КІСЛІЦЫНА працуе старшым навуковым супрацоўнікам аддзела тэорыі ў акадэмічным Інстытуце літаратуры імя Я.Купалы. Лічыць сябе спадчынным крытыкам, бо расла і гадавалася, спазнавала родную беларускую мову і далучалася да літаратуры ў сям'і вядомых нашых літаратуразнаўцаў, удумлівых і прынцыповых крытыкаў-аналітыкаў Міхася Тычыны і Алы Кабаковіч.***



— У дзяцінстве, папраўдзе, я хацела стаць урачом, гэтую думку выспельвала досыць сур'ёзна, тым больш што з мамінага боку ледзь не палова маіх сваякоў выбралі менавіта гэтую прафесію. Аднак стала літаратуразнаўцам, літаратурным крытыкам. Лічу, што паварот гэты не такі й круты, як можа каму падацца. Лекары — прафесія найбліжэйшая да літаратараў. Паміж імі можна правесці вось такія паралелі. Выдатны пісьменнік — хірург. Слабейшы — мануальны тэрапеўт. Сацыяльную прозу пішуць дыягносты, займальнае чытво — анестэзіёлагі. Жаночая паэзія — занятак кардэолагаў. Літаратурны крытык — патолагаанатам: прэпарыруй, корпайся ў вантробах, аналізуй, але не спадзявайся на ўдзячнасць кліента. Горш за ўсіх — літаратуразнаўцам, яны, калі і маюць адносіны да медыцыны, то хіба што да судовай. Літаратуразнаўца — эксгуматар. Ні ўдзячнасці, ні славы, ні грошай. Але апошняе слова за ім...

Сталася так, што я абрала сабе акурат гэтыя дзве самыя горшыя і няўдзячныя ролі. Не шкадую, і нават спрабую ўнесці ў гэтыя прафесіі элемент полу. Хаця, на мой погляд, крытыка — гэта і так спрадвечна жаночая справа. Мужчына будуе, малюе, піша... Жанчына заўсёды незадаволена — яна вартая большага. Мажліва, крытык не прафесія, а пол. Само слова перакладаецца як мерка, адзнака. Крытыкаваць — раздаваць адзнакі, настаўнічаць. Па адукацыі я настаўніца, выпускніца філфака БДУ. Беларуская настаўніца становіцца літаратурным крытыкам, калі ў ёй абуджаецца феміністка. Ці не паходзіць слова "крытыка" ад назову вострава Крыт — першарадзімы фемінізму?

Увогуле, крытык — той, хто любіць літаратуру, але не літаратараў. На пісьменнікаў ён глядзіць у задуменні... Як той цыган з паказкі — "Ці то гэтых дзяцей адмыць, ці то новых нарабіць?" Як па мне, дык тых, што ёсць, ужо і не адмыеш. Ну што можна чакаць ад пісьменнікаў-мужчын, якія на працягу некалькіх тыдняў чакаюць бамбардзіроўку Афганістана, палка абмяркоўваючы гэта ў рэдакцыйных пакоях? Я разумею, што для большасці беларускіх літаратараў каляровая скрынка — ледзь не адзіная крыніца не толькі інфармацыі, але і эмоцый. Іх паўсядзённае жыццё пазбаўлена адрэналіну — яны не наведваюць спартовыя пляцоўкі, не скачуць з вышкі, не вандруюць, і не ходзяць у казіно. У іх згорбленыя плечы і цяжкі погляд. Узбудзіць іх цікавасць можна хіба што бомбай.

Мне давялося назіраць такую сцэну. У рэдакцыі часопіса "Крыніца" чатыры паважаныя мною аўтары разглядалі плакат, на якім быў групавы жаночы фотаздымак пачатку стагоддзя. Пісьменнікі тыцкалі пальцамі ў твары даўно памерлых жанчын і пыталі адзін у аднаго: "А як табе гэтая? А ты б з гэтаю мог?.." На плакаце быў надпіс па-польску: "Што я тут раблю?" Што я тут раблю — падумалася мне і стала шкада сваіх сучасніц.

Для сённяшніх беларускіх літаратараў жанчына — гэта ўсяго толькі візуальны вобраз. Куды цікавей ім сёння — зловяць ці не зловяць бэн Ладэна. Між тым, бэн Ладэн — гэта не імя чалавека, а імя нашага страху перад жыццём. Мы не можам перайначыць свой лёс і задавальняемся перамогамі ў віртуальным свеце. Мужчыны-пісьменнікі прагнуць action, дзеяння, але рэалізуюць яго не ва ўласным жыцці, а выключна ў тых мадэлях, якія яны ствараюць штучна на паперы.

Ці многа ў нас апошнім часам з'явілася новых мастацкіх праектаў, новых часопісаў? Не. І ранейшыя патроху адыходзяць пад уладу жанчын. У гэтым ёсць пэўная справядлівасць. У літаратуру прыходзіць усё болей жанчын, якія проста фізіялагічна не могуць дазволіць сабе адрыў ад жыцця. Пасядзіш гадзіну-другую ў паліклініцы з дзіцем, устанеш колькі разоў да хворага, прастаіш паўдня на кухні ці вернешся стомленай з соткавых град — і табе хочацца перапісаць наноў не толькі створаную мужчынамі літаратуру, але і ўсё створанае імі жыццё.

Не так даўно я пазнаёмілася з Ірынай Чыкалавай, маладой прыгожай жанчынай, доктарам навук, якая выдае часопіс "Іншы погляд". Наклад яго невялікі — 299 экземпляраў, і разыходзіцца ён сярод спецыялістаў, пераважна гісторыкаў і сацыёлагаў. Яго мэта — нагадаць жанчынам аб той ролі, якую яны адыгралі ў гісторыі чалавецтва. Мне б хацелася, каб неўзабаве з'явіўся і адпаведны літаратурны часопіс, дзе б адстойвалася не толькі права жанчыны на іншы погляд на рэчы, але і прапагандаваліся спрадвечныя каштоўнасці — дабрыня, любоў да бліжніх, спагада.

"Цвёрдае, жорсткае вядуць да смерці, мяккае, слабое вядуць да жыцця," — сказаў кітайскі філосаф Лао-цзы. У гэтага выказвання больш глыбокі сэнс, але сёння мне хочацца прачытаць яго так: "Жаноцкасць выратоўвае свет!"

**Запісала М. МІХАЙЛАВА**

СВЯТЫ

# Каласавіны

На пачатку лістапада ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адзначалася 119-я гадавіна з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры.

Свята "Каласавіны" пачалося праграмай "Казкі жыцця", галоўнымі дзеючымі асобамі якой былі выхаванцы дзіцячага сада Нацыянальнай акадэміі навук. Яны прыйшлі ў госці да дзядулі Якуба, каб прачытаць вершы і казкі, сустрэцца з дзіцячымі пісьменнікамі Нінай Галіноўскай, Іванам Курбекам, малодшым сынам Якуба Коласа Міхасём Канстанцінавічам Міцкевічам — героем паэмы "Міхасёвы прыгоды".

Кульмінацыйным момантам "Каласавін" была XVII навуковая канферэнцыя, якая кансалідавала, безумоўна, лепшыя сілы вучоных-коласазнаўцаў. Работа канферэнцыі ладзілася на трох мэтавых секцыях, якія аб'ядноўвалі даклады вучоных па пэўных накірунках даследчыцкай дзейнасці: гісторыка-літаратурныя аспекты творчасці песняра; праблемы стылю, паэтыкі, тыпалогіі; моўна-лінгвістычныя аспекты творчасці Якуба Коласа.

Вялікую цікавасць выклікаў даклад дацэнта кафедры беларускай літаратуры XX ст. БДУ Валерыя Максімовіча "Канцэпцыя трагічнага гуманізму ў паэме Якуба Коласа "Сымон-музыка", у якім аўтар значна пашырае традыцыйны погляд коласазнаўчых колаў на далікатную праблему месца мастака ў сучасным яму грамадстве.

Як заўсёды, новыя цікавыя думкі выказалі член-карэспандэнт НАН РБ Міхась Мушынскі, які закрануў праблему літаратурнай вартаснасці рускамоўнага перакладу "Новай зямлі" Коласа, і загадчык кафедры беларусазнаўства Акадэміі кіравання пры



Прэзідэнце РБ прафесар Браніслаў Плотнікаў (даклад аб фразеалогіі ў мове твораў Коласа).

Традыцыйна многія даследчыкі звяртаюць сваю ўвагу на першы беларускі раман — трылогію "На росстанях". На гэты раз новую канцэпцыю прачытання вядомага твора прапанавалі супрацоўнікі Інстытута літаратуры НАН Беларусі доктар філалагічных навук Алесь Яскевіч і кандыдат філалагічных навук Алеся Шамякіна.

Невычарпальная ўвага вучоных і да шэдэўраў нашай класікі — паэмы "Новая зямля". У розных аспектах яе даследавалі адразу пяць навукоўцаў, сярод іх дацэнт кафедры славянскіх літаратур БДУ Мікола Трус, загадчыца філіяла Музея тэатральнай і музычнай культуры "Гасцёўня Галубка" Людміла Камароўская, дацэнты кафедры сучаснай беларускай мовы БДУ Зінаіда Бадзевіч і Валянціна Трайкоўская, аспірантка Юлія Назаранка ды інш.

3 лістапада, непасрэдна ў дзень нараджэння Якуба Коласа, сіламі музея, аддзелаў культуры Уздзенскага і Стаўбцоўскага райвыканкамаў была арганізавана літаратурная вандроўка для ўдзельнікаў і гасцей свята "Каласавіны" па мясцінах, звязаных з імёнамі вядомых беларускіх літаратараў — Паўлюка Труса, Кандрата Крапівы, Алеся Пальчэўскага. Наведалі навукоўцы і радзіму Коласа — хутар Смольню.

**Ганна ЗАЙЦАВА,**
**вучоны сакратар Літаратурна-мемарыяльнага Музея Якуба Коласа**

*Фота С. ЛУК'ЯНАВА*

*ЛІНІЯ ЖЫЦЦЯ*

# Палігон

Мінула 15-я гадавіна аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Фактычна вырасла новае пакаленне, якое нарадзілася і сфарміравалася пасля Чарнобыля. Яшчэ нядаўна мы гаварылі: да вайны, пасля вайны. Цяпер усё часцей і часцей выкарыстоўваецца адлік часу: да Чарнобыля, пасля Чарнобыля. Гэта трагедыя паставіла жахлівую кропку адліку ў развіцці чалавецтва: ідзе працэс незваротнага змянення генафонду нацыі, дасягнуты парог невяртання да зыходнага ў прыродзе, назіраецца страта здольнасці да эвалюцыі. У адрозненне ад Хірасімы і Нагасакі рэгіёны, што пацярпелі ад чарнобыльскага выбуху, будуць заставацца забруджанымі доўгія стагоддзі. Аднак увага з боку грамадства да чарнобыльскіх праблем становіцца ўсё меншай і меншай. Чарнобыльскую трагедыю эксплуатавалі хто хацеў і колькі хацеў у прымаць гэты знішчальны прагноз як рэальна ажыццявімы сцэнарый. Так, атамных, нафтавых, газавых і іншых магнатаў не кранаюць слёзы і смерць мільёнаў людзей. Ім, як і большасці задаволеных уласным камфортам, дабрабытам, здаецца, што такое становішча будзе працягвацца вечна. І ў гэтым памылка: вечнага не бывае нічога. Перамены наспяваюць штохвілінна, з кожнай гадзінай, з кожнымі суткамі зараджаецца і мацнее сітуацыя, калі ні грошы, ні ўлада, ні ядзерныя бомбы не здольныя будуць захаваць той камфорт, які ўвекавечылі ў сваіх думках і памкненнях моцныя гэтага свету. Хлеб гэтай сітуацыі — інфармацыя. Тыя, каму сёння і так добра, спачатку адмаўляюцца аналізаваць інфармацыю і выкарыстоўваць яе ў стваральных мэтах на агульную карысць, пасля не здольны заўважаць і саму інфармацыю.

Між тым няма нічога каштоўнейшага за інфармацыю. Тым больш, за інфармацыю аб чарнобыльскай трагедыі. Бог захацеў, каб інфармацыяй гэтай валодала Беларусь. Мусіць, ніводзін другі народ не змог бы выжыць, зазнаўшы такія страты. І я веру, што народ наш не толькі выжыве, але і выратуе многія іншыя народы.

А вось яны пачынаюць вельмі актыўна клапаціцца аб уласных бяспецы і выжыванні. Тое, што здарылася ў Чарнобылі 26 красавіка 1986 года, можа здарыцца ў любой з краін, якія валодаюць ядзерным патэнцыялам. Не сакрэт, што за вельмі вялікія грошы крымінальным шляхам распаўсюджваецца аружэйны плутоній сярод краін трэцяга свету. Тэрарыстычныя акты ў Злучаных Штатах 11 верасня гэтага года паказалі, што сусветная катастрофа наспявае.

Германія, рэальна ўяўляючы пагрозу, заявіла аб тым, што на працягу 25 гадоў будуць закрыты атамныя электрастанцыі, урад краіны прыняў закон "Аб аднаўляемых крыніцах энергіі". У гэты ж час наша суседка Расія прымае закон аб увозе ядзерных адходаў з другіх краін, у выніку чаго тэрыторыя вялікай дзяржавы будзе ператворана ў велізарныя смертаносныя могілкі.

Сёння Беларусь фактычна ў адзіночку супрацьстаіць сусветнай бядзе. Вынікамі гэтага супрацьстаяння не супраць авалодаць заходнія шчыруны, прапануючы ўзамен капеечную гуманітарную дапамогу. Пры ўсёй беднасці фінансавання вучоныя Беларусі валодаюць унікальнымі звесткамі і дадзенымі. Акадэмік Яўген Паўлавіч Дзямідчык, адзін з вядучых спецыялістаў у свеце ў галіне пухлін шчытападобнай залозы, неяк са скрухай канстатаваў:

— Наша інфармацыя каштуе мільёны і мільярды долараў, а краіна мусіць аддаваць яе бясплатна. Ад замежных візіцёраў няма адбою. Ехаць нібы каб дапамагчы, а пасля высвятляецца, што іх цікавіць толькі наша інфармацыя, і, як правіла, бясплатна. Калі паўстала пытанне аб будаўніцтве спецыялізаванай клінікі, дык замежныя партнёры будаваць яе ў Беларусі не захацелі.

Яўген Паўлавіч расказаў аб адным зусім дзікім выпадку. Група нашых дзяцей, прааперыраваных на шчытападобную залозу, была адпраўлена на аздараўленне ў Італію. А там іх узялі ды і прааперыравалі яшчэ раз, фактычна заведама скалечылі дзяцей. Гэта так ім хацелася мецъ матэрыял для даследаванняў.

Нямала каштоўных звестак напрацавана і ў Пінскім кансультацыйна-дыягнастычным цэнтры. Сумеснымі намаганнямі супрацоўнікаў цэнтра падрыхтавана кніга, у якой абагульнены дадзеныя па радыеактыўнаму забруджванню прыроднага асяроддзя, паказаны дозы і наступствы абпрамянення насельніцтва. База для правядзення радыяцыйна-экалагічных даследаванняў уяўляе сабой сетку ландшафтна-геахімічных палігонаў (ЛГП) і ахоплівае ўсе забруджаныя тэрыторыі рэспублікі на розных адлегласцях ад Чарнобыльскай АЭС. Такога няма ні ў адной навукова-даследчай установе рэспублікі. ЛГП займаюць плошчу 5—20 тысяч гектараў кожны, дзе размешчаны буйныя гаспадаркі і прылягаючыя да іх лясныя масівы, урочышчы, поймы, а таксама ландшафты, у рознай ступені змененыя ў выніку антрапагеннай дзейнасці. На тэрыторыі кожнага ЛГП устаноўлена стацыянарная рэперная сетка, з якой пастаянна здымаюцца паказчыкі. Пры гэтым улічаны ўсе тыповыя элементы ландшафтаў: поймы рэк, лясы, меліярацыйныя сістэмы, сельскагаспадарчыя ўгоддзі, антрапагенныя комплексы. Усяго ў Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцях выдзелена 24 ЛГП агульнай плошчай 297 470 гектараў. Сутнасць даследаванняў — вывучэнне міграцыі радыенуклідаў у залежнасці ад структуры ландшафту з глебы ў расліны, медыцынскае абследаванне насельніцтва. Фактычна Пінскі цэнтр валодае інфармацыяй аб 15-гадовай дынаміцы развіцця радыяцыйна-экалагічнай сітуацыі на землях, забруджаных пасля чарнобыльскага выбуху. Аказалася, што па многіх паказчыках захворваемасць дзяцей і падлеткаў з пацярпелых раёнаў Брэсцкай вобласці вышэй, чым дзяцей і падлеткаў, уключаных у Беларускі дзяржаўны рэгістр асоб, пацярпелых ад радыяцыі. Якім спалучэннем радыяцыйных, тэхнагенных і прыродных фактараў гэта можна растлумачыць? Адна з прычын — унікальныя прыродныя ўмовы ў Палескім рэгіёне, якія вызначаюць асаблівасці руху радыенуклідаў у міграцыйных ланцугах. Таму была праведзена работа па тэрытарыяльнай дыферэнцыяцыі паказчыкаў захворваемасці школьнікаў. Выяўлена, што захворваемасць не з'яўляецца прамым наступствам велічыні радыеактыўнага забруджвання тэрыторыі. Дзіцячая анкалагічная захворваемасць была вышэй у тых населеных пунктах, дзе выкарыстоўваецца сельсгаспрадукцыя з пойменных дзярновых, забалочаных і тарфяных глебаў, дзе ўласную жывёлу кормяць сенам з натуральных пойменных сенажацяў.

Вось, напрыклад, дадзеныя па ЛГП "Дварэц" Лунінецкага раёна. Шчыльнасць радыеактыўнага забруджвання ў вёсцы Ракітна 2,1 кюры на кв. кіламетр, у вёсцы Язвінкі — 3, у вёсцы Дварэц — 2,1. Анкалагічныя захворванні адпаведна: 980, 580 і 338 выпадкаў на 100 тысяч насельніцтва.

Спецыялістамі распрацаваны рэкамендацыі па вядзенні гаспадарчай дзейнасці ў той або іншай мясцовасці, выкананне якіх дазволіла б істотна паўплываць на стан здароўя насельніцтва. Рэкамендацыі разасланы ўсім кіраўнікам рэгіёнаў. Але...

— Але нікому гэта непатрэбна і нікога не цікавіць, — гаворыць загадчыца навуковага аддзела цэнтра Л. Лебедзева. — Ні гаспадарнікі, ні медыкі практычна не выкарыстоўваюць нашы матэрыялы. А вынікі абследавання сведчаць аб рэзкім пагаршэнні стану здароўя насельніцтва, і праблемы дыягностыкі, лячэння, аздараўлення дзяцей чыстымі прадуктамі, разумнага гаспадарання на забруджаных землях неабходна вырашаць тэрмінова.

Нядаўна Пінскі кансультацыйна-дыягнастычны цэнтр наведалі супрацоўнікі аддзялення медыка-біялагічных навук НАН Беларусі, член-карэспандэнт НАН Беларусі У. Кульчыцкі, доктар медыцынскіх навук І. Семяненя. Яны спрабавалі высветліць навуковы патэнцыял цэнтра, магчымасці мясцовага персаналу весці фундаментальныя даследаванні ў рамках праграм, прапанаваных НАН Беларусі. І матэрыяльная база цэнтра, і прафесійны патэнцыял яго супрацоўнікаў дазваляюць разглядаць гэта як рэальны праект. Прынамсі, кіраўніцтва цэнтра вельмі хоча гэтага. Адна з прычын такога актыўнага пошуку кантакту з акадэмічнымі навукоўцамі — пагроза ператварэння цэнтра ў звычайную паліклініку з яе мізэрным фінансаваннем і непазбежным падзеннем якасці абследавання насельніцтва.

Усяго работнікамі цэнтра складзены ландшафтныя карты 24 палігонаў. Сёння па поўным праве ўсю тэрыторыю рэспублікі можна назваць палігонам. І не трэба бачыць у гэтым нічога ганебнага і абразлівага. Тым больш не трэба экзальтаваных карысліва-правакацыйных заклінанняў накшталт: ах, палігон, ах, дакуль будзе працягвацца эксперымент над людзьмі! Нам з радыенуклідамі жыць стагоддзі, а з некаторымі і тысячагоддзі. Значыць, жыць трэба не як набяжыць, а ўсведамляючы сваю годнасць і дамагаючыся належных сродкаў бяспекі. Гэта першае.

Па-другое, палігон — гэта такая тэрыторыя, дзе або ўдасканальваюць сваё майстэрства, або захоўваюць адпрацаваныя прадукты жыццядзейнасці. У нас гэтымі прадуктамі пакуль што з'яўляюцца людзі, якія жывуць на гэтых палігонах Але так быць не павінна. Уладальнікі навукова-тэхналагічных палігонаў, ці палігонаў па захоўванні адходаў — гэта адны з багатых людзей у свеце. У іх паслугах маюць патрэбу ўсе. А наш беларускі палігон непасрэдна звязаны з выжываннем чалавецтва.

Значыць, і цана яго павінна быць адпаведная.

**Павел ВЕРАБ'ЁЎ**

сацыяльна-палітычных і эканамічных мэтах. Вельмі прадуктыўна была выкарыстана катастрофа на АЭС у вырашэнні спрэчкі дзвюх грамадска-палітычных сістэм: капіталізму і сацыялізму.

По першым часе свет літаральна ўскалыхнуўся і прыйшоў у жах ад памераў катастрофы. Але пазней, пад ціскам ілжывай міжнароднай кампаніі супраць праўды, арганізаванай атамным лобі, большасць у рэшце рэшт паверыла, што нічога небяспечнага няма. Аднак вучоныя многіх краін настойліва шукаюць шляхі сацыяльна-біялагічнага выжывання чалавека ў сучасных экстрэмальных умовах радыяцыйнага забруджвання планеты, спрабуюць выявіць у яго арганізме рэзервовыя адаптацыйныя магчымасці. Як лічыць дырэктар Пінскага кансультацыйна-дыягнастычнага цэнтра А. Волкаў, на жаль, у гэтым кірунку амаль нічога не дасягнута. Анатоль Ягоравіч пераконаны, што сёння мы не толькі не гатовы спасцігнуць усю глыбіню трагедыі стагоддзя, але і пакаяцца ў тым, што натварылі на нашай Зямлі. Прагноз на будучае, выказаны А. Волкавым, даволі песімістычны.

— Чалавечае грамадства, якое пражывае на радыеактыўна забруджаных тэрыторыях, не зможа засяродзіць свае намаганні на развіцці, а будзе неймаверна доўгі час сутыкацца з праблемай выжывання. Там будуць адбывацца небяспечныя працэсы дэградацыі чалавечага патэнцыялу, у першую чаргу — разбурэнне здароўя і хуткі фізічны знос, негатыўныя генетычныя наступствы. Сучасны традыцыйны свет з яго некантралюемымі тэмпамі росту эканомікі і насельніцтва, падзеннем маралі і духоўнасці з'яўляецца самаразбуральным і вядзе чалавецтва па шляху самазнішчэння. Чарнобыльская катастрофа — гэта самае найвялікшае бедства на планеце з доўгатэрміновымі экалагічнымі, медыцынскімі, сацыяльнымі і генетычнымі наступствамі, якія скажуцца на будучых пакаленнях. Сусветнае грамадства не асэнсоўвае ўсёй небяспекі чарнобыльскай катастрофы, а навука пад ціскам атамнага лобі вядучых краін самаўхілілася. Менавіта таму сусветная супольнасць не валодае рэальнай сітуацыяй і рызыкуе ніколі не даведацца ўсёй праўды аб жудаснай трагедыі мінулага стагоддзя, а кожная дзяржава не зробіць для сябе высновы аб тым, што не толькі ядзерная зброя, але і так званы мірны атам можа прывесці да гібелі ўсяго жывога на зямлі.

Напомнім, што ўсяго на тэрыторыі, забруджанай радыенуклідамі, Беларусі, Украіны і Расіі вымушана пражывае каля 7 мільёнаў насельніцтва. Штогод Беларусь траціць 10 працэнтаў свайго бюджэту на ліквідацыю наступстваў чарнобыльскай трагедыі. Гэта 200 мільёнаў долараў, у той час як, на думку спецыялістаў, для поўнай абароны насельніцтва, якое жыве пад пастаянным уздзеяннем радыеактыўнага выпраменьвання, неабходна траціць 2 мільярды долараў. Такіх грошай у Беларусі няма, а на замежную дапамогу асабліва разлічваць не выпадае.

І ўсё ж... І ўсё ж вельмі не хочацца





 **ЧАСАПІС**

## “Незваротнасць”



**Чарговая кніга паэзіі Алеся Паплаўскага “Незваротнасць” (нарадзіўся на Кобрыншчыне, жыве ў Брэсце) пазначана трывожным роздумам аўтара аб нашым часе. Лірычны герой А. Паплаўскага, па ўсім відаць, адчувае сябе ў гэтым свеце не надта ўладкаваным. Маецца на ўвазе, безумоўна, адсутнасць пастаяннага душэўнага і духоўнага апірышча, адсюль і жаданне разабрацца і ў самім сабе, і ў людзях, якія знаходзяцца поруч з табой. І не толькі побач. І хоць у анатацыі да зборніка зазначана, што тыя элегічныя матывы, якія пераважаюць у вершах, “у большасці выпадкаў пазбаўлены рэчаіснасці”, асмелюся крыху не пагадзіцца. Як бы там не было, а значыць усё ж дзесьці ў глыбіні душы лірычнага героя знаходзіцца месца гэтай элегічнасці, якая часам прыводзіць да настрою ў многім песімістычнага, а малюнкі, народжаныя фантазіяй аўтара, пазбаўлены светласці. У гэтым сэнсе верш “***Абмежаванасць у прасторы...” для новай кнігі А. Паплаўскага хутчэй характэрнасць, чым выключэнне:**

*Абмежаванасць у прасторы,*
*Неўладкаванасць, безгалоссе,*
*Начы рабінавую горыч*
*Мусова з лужы смокча восень.*

*Святло далёкіх вокнаў гасне.*
*І цішыні не праслухаць.*
*Няўклюднасць згубленых у часе*
*Містычных дрэў і сонных рухаў.*

**Гэта, аднак, не значыць, што няма, як кажуць, святла ў канцы тунеля. А што ўсё і сапраўды так, пераконвае трэцяя, заключная страфа твора:**

*І ў гэтай змрочнасці адценняў,*
*Сярод ахвярнасці пакутнай,*
*Часцінкай светлага імгнення —*
*Жыцця вялікая прысутнасць.*

**Аднак рэальнасць гняце, яна не дае спакою і гэта выліваецца ў новыя і новыя радкі. І нараджаюцца вершы, як гэтае чатырохрадкоўе:**

*Адбіткам на шкле літар —*
*Вясковыя згусткі мары,*
*Нібыта забойцы твар*
*У зрэнках сваёй ахвяры.*

**Вершы А. Паплаўскага — вершы настрою і ў іх вялікую сэнсавую нагрузку нясе кантрастнасць. Змрочнае, песімістычнае здатна адысці, развеяцца, калі з'яўляецца спадзеў на тое, што яшчэ не ўсё страчана. Падобнае заўважаецца і ў вершы “Развітанне”. Твор, у многім традыцыйны, нічога новага паэт у ім як быццам і не гаворыць:**

*Вокан бляск. Палахлівы смех.*
*П'яны вецер голле разгойдвае.*
*Танец ліній на схілах стрэх,*
*І рабрыстых антэн мелодыі.*

*Адзінотны, сляпы ліхтар —*
*Ледзяной пустаты прабоіны,*
*Да няёмкасці ліжа твар*
*Прэлай вільгаццю дні імжою нам.*

**Маецца на ўвазе “новае” ў змесце. Што да перадачы настрою, які паланіў абодвух падчас разлукі, дык тут, як бачым, А. Паплаўскі стварае каларытны малюнак, са сваёй вобразнай афарбоўкай. Яшчэ больш аўтар псіхалагічна глыбокі, калі перадае тое апошняе імгненне пасля якога заканыя разыдуцца. А вось ці назаўсёды, застаецца гадаць, бо у заключных радках верша тая шматзначнасць, што дае спадзяванне на магчымасць працягу сустрэч:**

*І няўломны, таемны рух...*
*Ёсць ад д'ябла ў ім нешта ўпартае.*
*...Цеплыня паслухмяных рук.*
*І маўчанне — маўчання вартае.*

**Умее А. Паплаўскі перадаць і стан прыроды. Як быццам не шукае замыславатых вобразаў, а гаворыць шмат: “Вецер прыцемак распырскаў. Сонца здзіўленае ў полі. Залацістая празрыстасць. Лысаватыя таполі. У траве беспярэстанку Ля вакна Стракоча конік. І заспаны ціхі ранак П'е расу з тваёй далоні”. Гэтыя і іншыя прыклады сведчаць на карысць таго, што кніга “Незваротнасць”, выпушчаная ў Брэсце Выдвецтвам С. Лаўрова прагучала.**

**Міхась ГЕНЬКА**

ВІНШУЕМ!

# Жыццё апяваючы... і творачы

## Анатолю ВЯРЦІНСКАМУ – 70

***Анатоль Ільіч — двойчы лімавец. Пачаў працаваць ён у газеце “Літаратура і мастацтва” ў 1962 годзе, калі пераехаў у Мінск, перад гэтым аддаўшы не адзін год раённаму друку. Але з “ЛіМам” развітаўся, стаўшы рэдактарам выдавецтва “Беларусь”. На шчасце, не назаўсёды, бо вяртанне А. Вярцінскага ў 1986 годзе стала лёсавызначальнай падзеяй і ў гісторыі штотыднёвіка, і ва ўсім культурным жыцці рэспублікі. З'яўляючыся галоўным рэдактарам “ЛіМа” па 1990 год, Анатоль Ільіч ярка раскрыў свае арганізатарскія здольнасці па згуртаванні нацыянальна свядомых сіл Беларусі. Менавіта дзякуючы А. Вярцінскаму “ЛіМ” стаў сапраўднай трыбунай, з якой загучаў голас у абарону беларускай мовы, беларускасці, пачало прапагандавацца ўсё, што накіравана на нацыянальнае адраджэнне. Грамадзянская, пісьменніцкая пазіцыя А. Вярцінскага добра раскрылася і тады, калі стаў народным дэпутатам, з'яўляўся намеснікам старшыні пастаяннай Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, членам Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі.***

***І, вядома ж, важкія набыткі А. Вярцінскага ў галіне літаратуры. Усё, што напісана ім, а гэта паэзія, публіцыстыка, драматургія, — літаратура самага высокага мастакоўскага кшталту. У яго няма праходных твораў, бо ўсё, што з'явілася з-пад пяра, пазначана не толькі майстэрствам. А прапушчана праз сэрца, прамоўлена надзіва шчыра. А. Вярцінскі — з літаратараў, пра якіх звычайна кажуць: “Жыве, як піша, і піша, як жыве”.***

***З юбілеем, дарагі Анатоль Ільіч! Жадаем, каб ваша 70-гадовая восень стала штуршком для яшчэ многіх жыццёвых і творчых вёсен!***

**Вашы лімаўцы**

Не ведаю, які з напісаных ім вершаў, больш за ўсё падабаецца самому Анатолю Ільічу. Не магу сказаць, каторы твор А. Вярцінскага найперш імпануе чытачам — тым больш, што зрабіць гэта па сутнасці немагчыма, бо ў кожнага свой густ. Мне ж асабліва падабаецца гэты, напісаны паэтам параўнальна нядаўна, але адчуванне такое, што ён скандэнсаваў у сабе, увабраў усё тое лепшае, што трапляе пад найменне паэзія А. Вярцінскага:

***Я фільм глядзеў.***
***Там — Спартака распялі,***
***Распялі ноччу,***
***калі ў Рыме спалі.***
***Вісіць Спартак,***
***канае на крыжы.***
***А ўнізе, каля ног яго, жанчына***
***ўзіраецца ўтрапёнымі вачыма:***
***“Спартак, Спартак...***
***Хоць слова мне скажы!..”***
***У роспачы хапаецца за ногі.***
***“Спартак, Спартак...”***
***У зале плачуць многія.***
***Ды і ў мяне самога ў горле ком,***
***І сам слязіну я змахнуў тайком...***
***Спартак, Спартак!***
***Героі ўсіх эпох!***
***Ці не такі ваш лёс быў у фінале?***
***Як нехта моцна спаў, вас распіналі,***
***вы ціха на крыжы сваім каналі,***
***І білася жанчына каля ног.***

Навідавоку дынамічнасць верша. Адчувальна трапяткая напружанасць кожнага радка. А словам — цесна. Думкам — вольна. Так сказаць, тэкст і падтэкст самым цесным чынам паяднаны. А яшчэ ёсць тое, што табе самому і перадаць цяжка. Настолькі шмат аўтарам сказана, што пры кожным чарговым прачытанні (і перачытванні) яго абавязкова знойдзеш тое, чаго спачатку магчыма не адчуў і не заўважыў. А гэта таксама сведчанне высокага паэтава майстэрства, лішні доказ, наколькі ён умее ствараць адпаведны настрой і як яму ўдаецца, трымаючы чытача ў напружанні, прамаўляць надзіва шмат.

Аднак, дастаткова акінуць позіркам напісанае А. Вярцінскім, паспрабаваць “пракруціць” у памяці вершы, што запомніліся, і ўпэўнішся: іх, вартых такой пільнай увагі, вельмі шмат, бо, калі разабрацца, у яго няма твораў праходных, выпадковых, такіх, што пішуцца абы напісацца, калі аўтар хоча абавязкова засведчыць, што ён па-ранейшаму ў актыўным мастакоўскім страі.

Анатоль Вярцінскі, у параўнанні з іншымі паэтамі, нават сваімі аднагодкамі, якія адносяцца да таго ж творчага пакалення, што і ён сам, піша менш. Але ўсё гэта па сутнасці ўжо само па сабе выбранае. У тым сэнсе, што каторы верш ні вазьмеш, ён нароўных можа стаяць з іншымі, пры гэтым планка мастацкасці нязменна знаходзіцца на вялікай вышыні. і не толькі вершы, а паэмы А. Вярцінскага з шэрагу твораў, якія годна прапісаліся ў сучаснай беларускай літаратуры.

Пачынаючы з “Песні пра хлеб”, што стала і сапраўды песняй. Найперш хлебу — як аднаму з самых дзівосных тварэнняў рук чалавечых. Але гэта і песня, у якой апяваецца людская праца ўвогуле, гучыць гімн роднай зямлі, паэтызуюцца першаасновы чалавечага жыцця. А. Вярцінскі, закранаючы вельмі важныя тэмы, ідзе і ад уласна перажытага, чэрпаючы з памяці тое, чаго не можа сцерці час. А гэта і згадкі маленства, памайстэрску перададзеныя ў паэме, якія выліліся ў раздзел “Маці пячэ хлеб”. і памяць аб басаногім дзяцінстве:



*Анатоль Вярцінскі з Максімам Танкам. Фота А. КАЛЯДЫ*



*Пятрусь Броўка і Анатоль Вярцінскі, 1977 г.*



*Анатоль Вярцінскі і Янка Сіпакоў, 1983 г. Фота Ул. КРУКА*

***Я помню заўсёды дарогі і сцежкі,***
***Вядуць што да роднае вёскі Дзямешкава,***
***Да поля з лашчынкамі ды бугаркамі,***
***Дзе ведаю кожны кусцік і камень.***

Маленства ж (асабліва ў памяці людзей, якія перажылі вайну) — гэта і той незабыўны момант, калі ў хаце пяклі хлеб. Не забыўся ён з гадамі, а пад пяром А. Вярцінскага паўстаў як сюжэтна завершаны малюнак, асобныя дэталі ў якім выпісаны здзіўляюча пераканаўча. Яны настолькі выразныя, зрокава асязальныя, што, чытаючы, перачытваючы, перажываеш сваю асабістую прысутнасць пры гэтым... чарадзействе... Думаецца менавіта такое слова найбольш да месца ў дадзеным выпадку. Маці не проста робіць сваю звыклую работу, калі пячэ хлеб. Яна, нібы чараўніца, выконвае адной ёй вядомы абрад. Для дзяцей жа ён заўсёды чаканне:

*Хіба забудзеш калі гэты момант!..
Ураз заціхае дзіцячы наш гоман,
Стаіць цішыня незвычайная ў хаце.
Збіраемся дружна мы ўсе каля маці.
Мы бачым адны толькі матчыны рукі,
адны яе рукі, адны яе рухі.
А маці з сваёй урачыстай усмешкай
нізка схіляецца над дзежкай
(над той, на якое сядзела нявестай).
Яна расчыняе хлебнае цеста.
Цеста мясіла яна кулакамі:
сценкі дзяжы абірала рукамі,
ваду надлівала, мукі падсыпала.
І нам было клопатаў тут нямала.
Былі мы ў мінуту гэтую рады
выканаць матчыны ўсе загады.
Мы ёй памагалі рукаў закасваць,
муку падсыпаць па яе заказу,
хусцінку мы ёй папраўлялі ахвотна
ці лоб выціралі матчын потны.
Было урачыста і ціха ў хаце —
хлеб з новага жыта ўчыняла маці.*

Дэбютаваў А. Вярцінскі ў 50-х гадах, друкуючыся ў шматтыражцы Беларускага дзяржаўнага універсітэта, аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта якога скончыў у 1956 годзе, у "Чырвонай змене", у часопісе "Маладосць".

Першая кніга крыху запазнілася — "Песня пра хлеб" пабачыла свет у 1962 годзе. Прычына ў тым, што Анатоль Ільіч, атрымаўшы дыплом аб вышэйшай адукацыі, паехаў на перыферыю. Працаваў у рэдакцыях раённых газет (Давыд-Гарадок, Камянец, Клімавічы, Рагачоў), а аўтару з глыбінкі, будзем глядзець праўдзе ў вочы, заўсёды было цяжэй "даступацца" ў выдавецтвы. Аднак, зазіраючы сёння ў першую кнігу А. Вярцінскага, з радасцю зазначаеш, што ў ёй нямала твораў, якія і цяпер, калі паэтам выдадзена не адна кніга, не страцілі сваіх вартасцяў. Ды і не маглі страціць, бо аўтар надзіва ашчадна паставіўся для іх адбору. Гэтае ж самае назіраецца і ў зборніках "Тры цішыні", "Чалавечы знак", "З'яўленне", "Ветрана", "Свята зямное" і іншых.

Паэзія А. Вярцінскага моцная сваёй зямной асновай і глыбокай філасофскай напоўненасцю. У ёй нязменна прысутнічае высокі грамадзянскі пафас, а гэта і ёсць сведчанне, выяўленне жыццёвай пазіцыі аўтара. Яна ж — жыццесцвярджальная, актыўная, дзейсная. Паэт перакананы:

*Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.
Не марнаваць, не нішчыць, не бурыць, —
Тварыць!*

Жыццё ж немагчыма без любві. Без прывязанасці да мясцін, дарагіх і блізкіх з маленства. Без кахання да любага чалавека. Без спагадлівых адносін да тых, хто поруч. Без любві ў самым шырокім разуменні — як аднаго з найвялікшых і вызначальных пачуццяў, бо

*Любоў адкрывае скарбы,
абсягі новых зямель.
Варожасць кідае на скалы,
нянавісць садзіць на мель.
Любоў і лад узвышаюць,
вядуць за далягляд.
Варожасць і злосць прыніжаюць,
адкідваюць назад...*

Асобныя вершы А. Вярцінскага пакладзены на музыку, а па паэме "Колькі лет, колькі зім!" пастаўлены тэлеспектакль. Хораша зарэкамендаваў Анатоль Ільіч сябе і як драматург, напісаўшы п'есы для дзяцей "Дзякуй, вялікі дзякуй!", "Скажы сваё імя, салдат", "Гефест — друг Праметэя"... Усе яны набылі сцэнічнае жыццё. Не застаўся па-за ўвагай крытыкі і ўдзячных чытачоў і зборнік літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі "Высокае неба ідэала". За кнігу "Нью-Йоркская сірэна" Анатоль Ільіч у 1988 годзе быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР.

Сёння паэтычныя і публіцыстычныя радкі А. Вярцінскага прасякнуты клопатным болем за родную краіну, за будучыню Беларусі. Ён непакоіцца, што "баіцца быць беларус беларусам...", ён абураецца, "калі гвалтуюць Айчыну..." — а менавіта так называюцца два вершы падобнай праблематыкі. Але ж гэтаксама непакоіцца і абураюцца ўсе, каму хочацца ўтульнага, адкрытага людзям і свету, Беларускага Дома. І ў гэтым сэнсе паэзія А. Вярцінскага — выражальнік народных памкненняў, а што можа быць для паэта больш удзячным, чым усведамленне, што напісанае ім своечасова запатрабавана. А яшчэ, што і напісанае на патрэбу дня, вызначаецца высокімі мастацкімі якасцямі. А. Вярцінскі — з тых нямногіх, хто не толькі жыццё апявае. Ён па сутнасці і... творыць яго, бо падказвае, як жыць, як станавіцца лепшым, якіх ідэалаў прытрымлівацца.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Энергія думкі і пачуцця



Пятрусь Макаль, Анатоль Вярцінскі, Барыс Сачанка і Ніл Гілевіч.
Фота А. КАЛЯДЫ

У кожнага часу і ў кожнага значнага паэта свае непаўторныя рытмы.

Верш Анатоля Вярцінскага напачатку можа здацца арытмічным, але гэта толькі напачатку, і толькі для чытача, недасканалы густ якога выхаваны на паэтычным гладкапісе. Калі ж уважліва і чула ўслухаецеся ў трывожнае дыханне ягоных рытмаў, то і самі не заўважыце, як яны паступова заваражаць душу і канчаткова забяруць у свой палон. Іх высокая энергія міжволі перадасца і вам. Энергія слова і даверлівая, як правіла размоўная, інтанацыя з паўзамі, лагічнымі і фразічнымі націскамі, з паўторамі-рэфрэнамі і своеасаблівай гукавой арганізацыяй радка зробяць сваю справу. І ягонае, як таго і патрабуе асноўны закон лірыкі, стане — вашым. Зрэшты, пра гэта сказаў, можа, нават не жадаючы таго, сам паэт у вершы "Параўнанне":

*Гэта — як музыка за сцяной.
Хочаш не хочаш, а ты яе чуеш.
Ты з ёй хвалюешся і сумуеш.
Ды ўсё-такі не лічыш яе сваёй,
бо тая музыка за сцяной.*

*Там хтосьці іграе, хтосьці пяе,
там за сцяной весяліцца хтосьці.
Ты ж толькі сведка той весялосці,
і музыкі той табе не стае.*

Памятаю, як аднойчы ў студэнцкія гады ў інтэрнаце на Паркавай магістралі, да мяне літаральна "прычапіліся" яго віртуозныя радкі і на працягу некалькіх дзён я ніяк не мог пазбавіцца ад іхняй музыкі:

*Рана ці позна,
позна ці рана
высахнуць слёзы,
загоіцца рана.
Рана ці позна,
позна ці рана
суровая помста
спасцігне тырана.
Рана ці позна...
Як светла,
як росна!*

Чытаючы апошняе па часе выдання выбранае паэта "Хлопчык глядзіць...", я зразумеў, чаму ён ніколі не звяртаецца да старых і папулярных у нашай паэзіі класічных форм санета, трыялета, актавы: высокая энергія яго сучасных рытмаў не можа ўмясціцца ў іхнія кансерватыўна строгія каноны — яны іх проста разбураць. Нездарма ж выдатны рускі паэт Леанід Мартынаў (дарэчы, у многім блізкі па творчай манеры А. Вярцінскаму) любіў жартаваць, паказваючы на сваё запясце: "На мне ад маіх біятокаў пачынае барахліць любы гадзіннік". Наша крытыка даўно і слушна заўважыла, што музе А. Вярцінскага куды бліжэй такія старажытныя жанры славянскай літаратуры, як плач, прытча, ода, балада. У іх асучасненай форме ягоныя рыфмы пачуваюць сябе па-гаспадарску свабодна і нязмушана. Ну як тут не згадаць паэму "Дажынкі", "Плач спаленай вёскі", "Тры прытчы", "Оду добрым людзям"!.. Ахвотна звяртаецца паэт і да такіх найсучасных формаў, як анекдот і каментарый ("Анекдот, ці Малітва ў гасцях", "Каментарый да Карана").

Трэба сказаць, што паэзія Анатоля Вярцінскага адметная не толькі непаўторнай інтанацыяй, але і своеасаблівай лексікай: ён выпрацаваў сваю, характэрную толькі для яго мову, якая арганічна сінтэзавала ў сабе і залацінкі фальклору, і звычайныя размоўныя празаізмы. Вось толькі адзін са шматлікіх прыкладаў:

*Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць.
У лес не хадзіць — не мець лясіны.
Лясіны не мець — не мець хаціны.
Хаціны не мець — дзяцей не радзіць.
Словам, баяцца ваўкоў —
Не мець дачок і сынкоў.*

Часам можна пачуць, што яго лірычны герой задужа рацыянальны. Так, ён рацыянальны, але роўна настолькі, наколькі рацыянальны наш век і нашыя аднавякоўцы. Больш правільна і справядліва яго было б назваць інтэлектуальным: ён палемічны і іранічны, моцны і бездапаможны, ён мысліць сучаснымі катэгорыямі і ў сваіх інтэлектуальных разважаннях звяртаецца да грэчаскай міфалогіі ("Варыяцыі на тэму "Гефест — друг Праметэя"), да старажытнай кітайскай паэзіі ("Размова з Ду Фу"), да песень славутай француженкі Эдзіт Піяф ("Эдзіт Піяф хоча любові"); і ў той жа час яго душа баліць па кожным чацвёртым ("Рэквіем"), плача па гаротнай працаўніцы цётцы Аксінні (паэма "Дажынкі"), балюча перажывае за сённяшняга беларуса, "які баіцца быць беларусам"...

Зараз, згадваючы гэтыя творы, многія з якіх сталі хрэстаматыйнымі, я па зразумелай асацыяцыі не магу не ўспомніць словы Пушкіна, сказаныя ім пра Баратынскага, якога ў свой час папракалі ў залішнім рацыяналізме: "Ён у нас арыгінальны — бо мысліць".

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

Ніна МАЦЯШ

# Чытаючы Анатоля Вярцінскага

"Якое каханне пазней?
Трэба спытацца ў людзей..."

*Вось ужо і не трэба пытацца ў людзей...
На абдымках, паланнях, каханнях, —
Бы ад месяца срэбны ручнік на вадзе, —
На душы след астылых каханняў...*

*Як пасуе цяпер ім жалейкі матыў,
Чутны знекуль то ценька, то густа...
Як пяшчоціцца ўсмешкі пудлівы матыль
У нажураных куціках вуснаў...*

•

"Якое надвор'е на двары?
Якія вецер, дождж і сонца?"

*Якое надвор'е на душы?
З боку якога вецер?
Мае на ўвеце ледзяшы
Подых ягоны ці квецень?*

*Якое надвор'е на душы?
Ветрана ці не дужа?
Нагодліва ці ідуць дажджы?
Завітвае ж дождж і ў душы...*

*Якое надвор'е на душы?
Як там, смужна ды сонна,
Ці на абсягах яе ляжыць
Пячатка высокага сонца?*

*І, даў Бог, стулілі раты скавышы,
Слотная згінула наслань...
Якое надвор'е на душы
Цяпер, як я табе згасла?*

•

"Віно папалам з вадой.
Дождж папалам са снегам".

*Не ўсквітнела мілосць. Што ж, ну што ж...
Хоць лісточак сухі на ўспамінак...
Па ўтрапёнай нямоце сняжынак
Зноў сваё штось шапоча дождж.*

*Ён самотны, як мы з табой.
І натуры зусім не маёвай.
Але мова яго — як замова,
Што ўтрывальвае супакой.*

*Падаліст ціхамірыць дол.
Ані ластавачак, ні жаданняў.
Галасы іх ужо як паданне...
Восень. Дождж са снегам наўпол.*



Анатоль Вярцінскі з дачкой Алесяй, 1980 г.
Фота Ул. КРУКА



З Нінай Мацяш. У другім радзе Сяргей Грахоўскі і Васіль Вітка.
Фота А. КАЛЯДЫ

Ніна РЫБІК



# ПРАВА НА АДСЯЛЕННЕ

АПАВЯДАННЕ

невыказна раздражняла заўсёдная гара мокрых пялюшак, пажабленыя ад бясконцага мыцця рукі, паламаныя пазногці. Было зайздросна, што сяброўкі бягуць на танцы, у кіно, гуляюць з хлопцамі, а яна сядзіць, бы прыкутая да гэтай дзіцячай калыскі, не маючы часу нават збегаць у цырульню.

Цяпер жа ўсё было інакш: пялюшкі, здавалася, мыліся самі па сабе, ды і то праўда, што часта гэты абавязак з задавальненнем браў на сябе Алег. І ночы ўжо не былі бясконцым выпрабаваннем: Васілёк удаўся спакайнейшым за Сярожку, і яна паспявала выспацца, прыбраць у доме, зварыць смачны абед — хацела, каб Алег заўсёды сюды імкнуўся.

А потым, ужо як Васілёк падрос і стаў хадзіць у дзіцячы садок, а яна вярнулася на работу, пачалося вось гэта — беспрычынная знясільваючая стомленасць, бяссонніца. Яна не гаварыла пра гэта Алегу — больш за ўсё на свеце баялася падаць у яго вачах старой і хворай. Папрасіла Любу па-сяброўску абследаваць яе — тая ўсё зрабіла і толькі плячамі паціснула: "Нармальна ўсё ў цябе, здаровая". І пажартавала: "Ты, як мужа маладога займела, занадта шмат увагі стала свайму здароўю надаваць". Надзя сумелася, падумала: можа, гэта і на самай справе нервы? І цяпер імкнулася не зважаць на галаўны боль, прымушала сябе ехаць на раён, нават калі не хацелася, і старалася не надта пільна ўглядацца ў люстэрка. Але сённяшняя начная сустрэча з самой сабой прымусіла яе вярнуцца да пытання: "Што ж адбываецца? З чаго гэта пачалося?".

Кубак гарбаты непрыкметна апусцеў. Надзя наліла сабе яшчэ адзін. Будзільнік на стале паказваў дзве гадзіны. Яго мернае ціканне было адзіным, што парушала цішыню спячага дома. Але раптам у суседзяў зверху забразгаў посуд, гучна загаманілі, нешта з грукатам упала, заплакала жанчына: "Пэўна, Пятро зноў дахаты п'яны прывалокся. Бедная Валя, мала ёй гора, дык яшчэ муж — п'янтос".

Падумаўшы пра суседку, Надзя раптам, быццам святло пражэктара выхапіла з цемры забыцця, успомніла першую бяссонную ноч, за якой пайшлі чарадой іншыя — яна ўжо перастала іх лічыць.

...У той вечар стомленая, але задаволеная — удалай была паездка па раёне, шмат цікавых сустрэч, некалькі неардынарных будучых газетных матэрыялаў у журналісцкім блакноце — яна вярталася дамоў. І сустрэла ля пад'езда Валю, якая нерашуча тапталася ля дзвярэй з дарожнай сумкай.

— Куды сабралася, суседка? — весела павіталася яна і сумелася, заўважыўшы сплаканыя Валіны вочы, па-старэчы апушчаныя плечы.

— Ды не сабралася — вяртаюся, — адказала тая бясколерным голасам. — У хату вось не хочацца заходзіць.

І раптам з надзеяй узняла вочы:

— А мо ты да мяне зойдзеш, Надзечка? Хоць на хвілінку... Пасядзім, кавы пап'ем...

Дома Надзю ніхто не чакаў — Алег з Васільком адпачывалі ў санаторыі, і яна згадзілася зайсці да суседкі, з якой да гэтага толькі віталася пры сустрэчах ды перакідвалася некалькімі нязначнымі фразамі. Адчувала — нешта ў жанчыны здарылася, трэба ёй некаму выплакацца, а яна прывыкла выслухоўваць людскія споведзі.

Шчоўкнуў замок, Валя адчыніла дзверы — і адразу спатыкнулася аб раскіданыя ў прыхожай мужчынскія чаравікі. З глыбіні кватэры патыхнула густым перагарам, са спальні чуўся гучны храп.

Валя засаромелася, кінулася прыбіраць абутак, выбачацца. Надзя таксама збянтэжылася, нібы застала чужых людзей за непрыстойным заняткам, хацела было прыдумаць якую прычыну, каб пайсці. Ды суседка раптам кінула чаравік у кут, знясілена прытулілася да сцяны і закрыла вочы.

— Хай гарыць усё гарам..

— Валя, табе што, дрэнна? — устрывожылася Надзя.

— Дрэнна, Надзечка... Так дрэнна, што не выказаць... Не ўцякай, калі можаш, пабудзь са мною...

— Добра-добра, — беручы на сябе ролю гаспадыні, Надзя зачыніла дзверы ў спальню, каб не так быў чуваць гэты надакучлівы храп, зайшла на кухню, расчыніла фортку, паставіла чайнік на пліту.

— А ведаеш, суседка, давай вып'ем па кілішку, — рашуча махнула рукой Валя. — Недзе ў мяне прыхавана пляшка, калі гэты жлукта не знайшоў ды не выжлукціў.

Надзя аж знямела ад нечаканасці: усе ў доме ведалі, што Валя на дух не выносіць п'яніц, асабліва жанчын, нават у кампаніі дазваляла сабе толькі прыгубіць чарку, не паддаючыся ні на якія ўгаворы. "Моцна ж, мусіць, яе дастала", — падумала са здзіўленнем і шкадаваннем.

А Валя тым часам прынесла са схованкі бутэльку, адкрыла яе, наліла дзве чаркі, дастала са сваёй сумкі хлеб, каўбасу.

— Ну, бяры, суседка. За маю Танечку... — зглынуўшы камяк слёз, рашуча кульнула чарку — і захлынулася, закашлялася з непрывычкі, стала запіваць вадой, а пасля і расплакалася.

Выпіла сваю чарку і Надзя. Памаўчала хвілін колькі, даўшы сысці першаму патоку слёз, затым спытала:

— Дык што ў цябе здарылася, Валечка?

— Ох, не пытай, Надзя. Ворагу свайму таго не пажадаю. З Мінска я еду. З бальніцы. Танечку маю палажылі. Прызналі рак шчытавідкі. Божачка, як жа мне на свеце цяпер жыць, куды кінуцца, дзе ратунку шукаць? — зноў загаласіла Валя, абхапіўшы галаву рукамі.

— Ну што ты гаворыш — рак! — не дала веры Надзя. — Быць таго не можа! Іх жа ў школе кожны год правяраюць, ты ж сама заўсёды казала — дзякуй Богу, усё добра. Не можа быць, каб так адразу — і рак. Мо проста павялічана шчытавідка?

— Ды дзе ж там адразу... Як цяпер мне сказалі, ёй тры гады назад, яшчэ ёй у пятым класе павелічэнне шчытавідкі ставілі, затым вузлавы зоб. Ды хто ў тую картачку глядзеў? Я, дурніца, радуюся, што дзіця ні на што не скардзіцца. Яшчэ і хвалілася: я са сваёй Танечкай, маўляў, і на той першамайскай дэманстрацыі была, і нікуды яе ў першае лета не вывозіла, пабаялася адну адпраўляць, і ёду таго не піла, ніхто не казаў, а вось як на добрае, дык усё і добра. Вось яно якое добрае... Усё я правільна зразумела, Надзечка, сама да апошняй хвіліны веры не давала, усё думала: можа, памылка якая, можа, чужыя аналізы падсунулі, пераблыталі — усяляк жа бывае... Ды не, усё правільна. Палажылі маю дачушку, сказалі, да аперацыі будуць рыхтаваць... Надзечка, родненькая, ты ж граматная, не тое, што я, проста швачка, парай, што рабіць? Куды кінуцца? Дзе каго шукаць? Я ўсё аддам, апошнюю сукенку з плячэй здыму, дзень і ноч за машынкай сядзець буду, толькі б Танечку ўратаваць. Яна ж у мяне адна ўцеха. Як яе не стане, то нашто ж мне тады жыць? Каб за гэтым жлуктам чортавым сцаныя порткі мыць ды мацюкі яго слухаць? Госпадзі, калі ўжо не мінуць нам гэтай хваробы, то чаго ж ты яе мне не паслаў? Я ж меней бераглася тады, усё піла і ела, яе болей апекавала...

Ап'янелая ад гарэлкі, а больш ад гора, Валя плакала і гаварыла... Надзя, знямелая ад суседчынага гора, моўчкі качала па стале хлебны шарык і толькі адна-адзіная думка пульсавала ў галаве: "Васілёк... Як там Васілёк?.. Божа, якая яна дурніца — ягадамі з лесу яго частавала, малачком хатнім. Усім напаказ — глядзіце, маўляў, я нічога не баюся. Каму што даказаць хацела? Каго ў чым пераканаць? Ідыётка — на дзіцяці сваім эксперыменты ставіць надумала..."

Праз нейкі час Надзя сяк-так супакоіла суседку. Валя, выплакаўшыся, напіўшыся гарачае гарбаты і прыняўшы супакойваючае, заснула, скурчыўшыся ў зале на канапе. Надзя накрыла яе пледам і ціхенька пайшла. Дома сама прыняла таблетку, паспрабавала чытаць, але не змагла: суседская Танечка, русявая блакітнавокая дзяўчынка, стаяла ў вачах. Усмешлівая, яна заўсёды першай ветліва віталася з суседзямі, гадзінамі магла цярпліва стаяць у чарзе ці прасаваць бялізну, кожнай бабульцы імкнулася паднесці сетку. Усе жанчыны ў доме зайздросцілі Валі, казалі: "Хоць муж і п'янтос, затое дачка ў яе — золата, а не дзіця" і як здаралася паўшчуваць за што-небудзь сваіх падшыванцаў, заўсёды ставілі ў прыклад Танечку: яна і разумніца, і памочніца маміна, і ветлівая, і акуратная, і таварыская. І вось трэба ж — такому дзіцяці і такая хвароба!

Уяўленне малявала Танечку на бальнічным ложку — бледную, маркотную. І тут жа паслужліва падсунула іншы малюнак: на ложку побач — Васілёк, з пабрытай нагала галоўкай, перавязаным горлам, тужлівымі вачыма... Ёй захацелася тут жа ўбачыць сына, пераканацца, што ён такі ж ветлівы, як заўсёды, жвавы, гарэзлівы. Ці хоць бы пачуць яго галасок-званочак... Схапіла тэлефонную трубку, і тут толькі ўсвядоміла, што ўжо дванаццатая гадзіна, у санаторыі, пэўна, усе спяць і яна сваім званком толькі наробіць перапалоху.

Гэта была першая ноч са шматлікіх наступных, калі Надзя не змагла заснуць. Яна варочалася з боку на бок, лічыла да сотні, а затым — да тысячы, піла валяр'янку, чытала нейкія нудныя філасофскія развагі пра сэнс жыцця, а сон усё не ішоў. Толькі пад раніцу стомленасць на некалькі хвілін змежыла ёй вейкі — і тут жа Надзя з крыкам прахапілася: ёй прысніўся Васілёк. Ён ляжаў у сваім дзіцячым ложачку, на ім была чамусьці апранута Таніна сукенка і ён гаварыў Таніным ціхім галаском: "Мамачка, мне так усё баліць, так баліць..."

Ледзьве дачакаўшыся сямі гадзін раніцы, Надзя, паўтараючы як закляцце адно і тое ж: "Толькі б усё было добра! Толькі б усё было добра!" набрала нумар санаторыя.

Вахцёрка пачала заспаным голасам незадаволена дапытвацца, хто гэта звоніць так рана і чаму, і толькі магічнае "З газеты!", якім Надзя карысталася ў крайніх выпадках, прымусіла яе паклікаць Алега.

Ён схапіў трубку літаральна праз хвіліну:

— Што? Што здарылася? З бацькам што-небудзь? — выгукнуў ён устрывожана замест прывітання.

Тут толькі Надзя ўспомніла, што ў Алега хворы бацька, і ўявіла, як гэты ранні званок мог яго напалохаць.

— Ды не, нічога не здарылася. Па вас засумавала, — пастаралася адказаць бадзёра. І задала пытанне, якое ўсю ноч не давала заснуць: — Як там Васілёк?

Алег на тым канцы провада ўздыхнуў з палёгкай:

— Ну, дзякуй Богу...

— Я цябе пытаюся: як Васілёк? — пачала злавацца Надзя.

— Васілёк? Нармальна, як заўсёды. Спіць яшчэ. Гуляем, на катамаране катаемся, купаемся. Загарэў, як шакаладка. Толькі па табе сумуе. Кожны вечар пытае, дзе мама. А чаму ты пытаешся? Ты што, знарок пазваніла ў такую рань, каб спытаць, як Васілёк?

— Знарок. Я вельмі засумвала па вас. Папрашу рэдактара, калі пусціць на тыдзень які, то прыеду.

Алега заўсёды прыводзілі ў захапленне такія яе нечаканыя рашэнні, "вар'яцінкі", як ён казаў. Здаецца, ён захлынуўся радасцю, бо некалькі імгненняў маўчаў, а затым усхвалявана прамовіў:

— Гэта было б здорава... Чакаем!

Рэдактар быў у гуморы і дазволіў узяць ажно два тыдні ў лік водпуску пры ўмове, што яна за гэтыя некалькі дзён створыць запас. Надзя ляскацела машынкай, як шалёная, заваліла адказнага сакратара матэрыяламі і з чыстым сумленнем і амаль спакойнай душой паехала да сваіх мужчын.

Гэта былі, бадай, два самыя шчаслівыя тыдні — яны ўсе разам купаліся, загаралі, блукалі па лесе, збіралі чарніцы і нанізвалі іх на травінку, як пацеркі, а затым лавілі губамі іх сакавітую слодыч, смяяліся, дурэлі. Не думалася ні пра што благое, нават хворая Танечка ўспаміналася хоць і са спачуваннем, але рэдка і атаясамлівалася з вялікім горам, якое, тым не менш, існуе недзе далёка. Здавалася, што бяда не павінна, ну проста не можа ўварвацца ў іх маленькі сямейны рай, разбурыць яго. Так, з іншымі гэта здараецца, але з імі — не павінна, бо яе Васілёк — самы прыгожы, самы лепшы, і Алег бясконца любіць яго, а таксама яе — за тое, што падарыла яму сына, і яна — самая шчаслівая жанчына ў свеце, з ўсё гэта не можа, ну проста не мае права разбурыцца, знікнуць...

Бяда напомніла пра сябе адразу пасля вяртання — заплаканымі Валінымі вачыма:

— Зрабілі Тані аперацыю. Казалі, удала. А яна як здань стала, ажно свеціцца. Стараецца ўсміхацца, каб мяне падбадзёрыць, а слёзы з вачэй так і коцяцца.

Ізноў трывога ўпілася ў сэрца, як пражаўлены цвік, малюючы выявы адна страшней за другую. Надзя гнала іх ад сябе, і днём, у вечнай мітусні рэдакцыйных будняў, амаль спраўлялася з гэтым пастаянным падсвядомым страхам, хіба толькі хто расказваў пра чарговую ахвяру Чарнобыля: немаўля-калеку, ці жарабя-мутанта, ці памерлае ад раку дзіця... Тады ржавы цвік нібы ўваходзіў яшчэ глыбей, выклікаючы пякучы боль і паралізуючы ўсе думкі, акрамя адной "Васілёк!.. Толькі ўсё было добра".

А ноччу жудасныя сны не давалі ёй закрыць вочы: перад ёй адразу ж паўставала: Васілёк на аперацыйным стале, Васілёк у інваліднай калясцы, Васілёк, прыкуты да ложка... Ад гэтага не было паратунку — яна баялася ночы, баялася засынаць...

Яна перастала хадзіць у лес, закінула на антрэсолі свае вуды, прадукты купляла толькі ў магазіне і то дзеля перастрахоўкі насіла іх правяраць знаёмай у санстанцыю, забараніла малому бавіцца ў пясочніцы, кожны месяц вадзіла яго ў бальніцу здаваць аналізы — і нічым не магла заспакоіцца, нішто не магло выцягнуць з сэрца гэты ржавы цвік.

...Мо ў пяты раз паставіўшы чайнік на пліту, Надзя выйшла ў калідор, прыадчыніла дзверы ў дзіцячы пакой. Васілёк спаў, выставіўшы па звычцы адну нагу паверх коўдры, а ручку паклаўшы пад шчаку. Чорныя кучаравыя валасы рассыпаліся па падушцы, пухленькія шчочкі ружавелі ў цьмяным месяцавым святле...

Надзя замілавана ўсміхалася: "Сонейка маё... Толькі б ты не зведаў бяды, толькі б у цябе ўсё было добра".

— Чаго ты не спіш? — яна нават уздрыгнула ад нечаканасці, пачуўшы за спіной заспаны Алегаў голас.

Муж пацягнуўся вачыма за Надзіным позіркам — і таксама ўсміхнуўся з замілаваннем:

— Спіць, як анёлак... Цудоўны ў нас з табой сынок, праўда, Надзейка?

— Праўда... — удзячна ўткнулася яму тварам у плячо жонка. — Толькі я баюся, Алег, — памаўчаўшы, рашылася ўрэшце выказаць тое, што даўно гняло душу.

— Баішся? Чаго? Ты пра што? — з недаўменнем адхінуўся Алег.

— Радыяцыі баюся. Бачыш, што з Валінай Танькай сталася. Баюся я за Васілька. Алег, давай паедзем куды-небудзь...

— Як паедзем? Куды? — муж усё не мог зразумець, пра што яна.

— Ну, выедзем куды-небудзь у чыстую зону, як людзі выехалі. Будзем там жыць, працаваць. Каб можна было ў лес схадзіць, ягад назбіраць, не баючыся — помніш, як у санаторыі... Каб Васілька я магла спакойна ў пясок пусціць пакорпацца.. У паходы б хадзілі ўсе разам, з начлегам ля вогнішча... У грыбы, на рыбалку...

— Але ж ты і тут хадзіла — і ў грыбы, і на рыбалку, — недаўменна паціснуў плячамі Алег, зачыняючы дзверы, каб не збудзіць сына... — І яшчэ з мяне ўвесь час кпіла, калі я прасіў асцерагацца. Не разумею, што з табой сталася...

— Дурная была, — цяжка ўздыхнула Надзя. — Геройства сваё паказвала, незразумела, каму і навошта. А як паглядзела на Танечку, як яна вяне... Страшна... А раптам што з Васільком здарыцца? Я ж потым сабе не дарую. А ён — ці даруе ён нам, як вырасце? Добра, як усё будзе добра, а як не?

— Надзя, не панікуй! Людзі і ў чыстай зоне і хварэюць, і паміраюць, і дзяцей-калек нараджаюць. Не спісвай усё на радыяцыю.

— Не трэба мяне пераконваць, — горка ўсміхнулася Надзя. — Я сама яшчэ нядаўна гаварыла тое ж самае. Але, Алег... Калі праз колькі часу ён пагледзіць нам у вочы і скажа: "Вы — дарослыя, разумныя людзі, вы — мае бацькі. Вы ведалі, што радыяцыя — гэта небяспечна. Чаму ж вы мяне не ратавалі?" Што мы яму на гэта скажам? Што і ў чыстай зоне людзі паміралі? Ведаеш, я апошнім часам адчуваю сябе злачынцам — перад Валяй, бо пераконвала яе, што і тут жыць можна, перад яе ні ў чым не вінаватай дачушкай, якая памірае ад празмернай дурасці дарослых... А больш за ўсё перад сынам — што трымаю яго тут, як заложніка. Давай паедзем, Алег, я вельмі цябе прашу. Я больш не магу жыць з гэтым пачуццём віны, я вар'яцею.

— Куды мы паедзем, Надзя? Помніш, я прапаноўваў табе, як усе людзі выязджалі — давай і мы рванём? А ты толькі смяялася і называла мяне баязліўцам. А тады ж і кватэру можна было атрымаць, і на работу прасцей уладкавацца. А цяпер як паехаць? Жылля няма, работы няма, усюды беспрацоўе. Кватэру мы сваю не прададзім, хто яе тут купіць.. Куды ехаць, Надзя, як?

— Я не ведаю, Алег... Я ведаю, адчуваю толькі адно: нам трэба адсюль ехаць. Разумееш: трэба! Зрэшты, ёсць жа ў нас права на адсяленне, нам яго дзяржава прадаставіла! Што мы, у рэзервацыі жывём, якую нельга пакідаць?! Я хачу адсюль паехаць, мне трэба сына ратаваць, і я паеду!!! — амаль крычала Надзя, забыўшыся, што на двары — ноч, што за тонкай сцяной спяць суседзі, што можа разбудзіць сына.

— Ну добра, добра, — стаў супакойваць яе Алег. — Заўтра пагаворым...

— Я не хачу заўтра! Паабяцай мне, што ты ўсё зробіш, каб паехаць адсюль! Хоць куды, — у забытую вёску, у цьмутаракань, у камуналку — хоць куды!.. Калі не паабяцаеш зараз жа, то я, я...

— Не крычы, разбудзіш Васілька...

Надзя ўрэшце зразумела, што дала залішнюю волю нервам, знясілена апусцілася на табурэтку.

— Прабач, Алег. Я сарвалася. Гэта нервы. Прабач.

— Нічога, — муж абняў яе, прыхінуў да сябе. — Гэта бывае. Выпі чаго-небудзь, супакойся. А заўтра пагаворым, што рабіць. Нешта прыдумаем. А цяпер пайшлі спаць.

...Хмара закрыла месяц, у акно супакойваюча забарабаніў дробны дождж. Халаднаватае плячо мужа, у якое ўткнулася Надзя, як кволае птушаня, здавалася такім моцным, такім надзейным...

"Ён абавязкова што-небудзь прыдумае, ён абяцаў", — са спакойнай усмешкай абняла яна мужа і заснула.

Алег тым часам ляжаў з расплюшчанымі вачыма і думаў, як адгаварыць жонку ад гэтае яе задумы. Пераехаць куды-небудзь няма аніякай магчымасці — ніхто не дасць кватэры, нідзе не знойдзеш работу.. Ды і як ён кіне хворага бацьку? А дачок? Яны і так крыўдуюць на яго, лічаць, што не ад маці ён пайшоў да другой жанчыны, а іх пакінуў, ім здрадзіў... А калі ён яшчэ паедзе ратавацца ад радыяцыі, пакінуўшы тут сваіх дзяўчынак?.. Не, пераезд адмяняецца. Надзю ён як-небудзь угаворыць.. Сапраўды, жывуць жа і тут людзі, не ўсе ж хварэюць ды паміраюць, чаго яна панікуе...

## І не толькі Штраус

**Не зусім звычайны канцэрт адбыўся ў Нацыянальным тэатры оперы Беларусі. Ён праходзіў пад рубрыкай "Майстры мастацтва — абаронцам Айчыны".**



**Сімфанічны аркестр тэатра гэтым разам размясціўся непасрэдна на сцэне. У яго праграме былі галоўным чынам творы славутага аўстрыйскага кампазітара, скрыпача, дырыжора XIX стагоддзя Ягана Штрауса.**

**Цікава, што вельмі папулярная музыка стваральніка ўзораў венскіх вальсаў... у Іспаніі. Асабліва часта яна выконваецца там у калядныя святы. Тры гады таму аркестр Вялікага тэатра Беларусі і наша салістка оперы Алена Шведава з вялікім поспехам выконвалі ў Іспаніі "Казкі венскага лесу", "Вясенні галасы" ды іншыя шырокавядомыя творы Я. Штрауса. І вось цяпер музыка славутага Штрауса гучала непасрэдна для нашай айчыннай публікі.**

**Алена Шведава спявала цудоўна, натхнёна! Яе прыгожае каларатурнае сапрана гучала мякка, шчыра, раз-пораз зліваючыся з мілагучнай флейтай і, можна сказаць, было ўпрыгожаннем канцэрта. Усім сваім аблічам, жаноцкасцю, абаяльнай усмешкай, настроем салістка проста заваражыла слухачоў. Ярка, артыстычна яна выканала куплеты Адэлі з аперэты Я. Штрауса "Лятучая мыш", тэмпераментна, іскрыста прагучаў вальс Джульеты з оперы Шарля Гуно "Рамэо і Джульета".**

**Поспех спявачкі падзяліў сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам Мікалая Калядкі. Аркестр граў шырокавядомыя папулярныя творы Штрауса — вальсы "На цудоўным блакітным Дунаі", "Імператарскі", "Венская кроў"... Уражвала мяккае каларытнае гучанне струнных, флейтаў...**

**Закончылася праграма творам Я. Штрауса-бацькі "Марш Радзецкага", які вельмі часта выконваюць духавыя аркестры. Але ж і выкананне сімфанічнага было не менш яркае, музыкантам нават "дапамагалі" слухачы, якія па знаку дырыжора пляскалі ў ладкі ў такт музыцы.**

**Вяла канцэрт народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, якая паспрыяла стварэнню ў зале цёплай шчырай атмасферы. Яшчэ адзін канцэрт на гэтай жа сцэне ў гэтым жа складзе выканаўцаў і з такой самай праграмай адбыўся 26 кастрычніка.**

**Вера КРОЗ**

*На здымку: лаўрэат Міжнароднага конкурсу Алена ШВЕДАВА.*

## "Всемирная литература", № 9

**Вераснёўскі нумар часопіса "Всемирная литература" прысвечаны літаратуры Кітайскай Народнай Рэспублікі і выпушчаны пры садзеянні і фінансавай дапамозе Пасольства КНР у Беларусі. Адкрываецца ён выступленнямі Дэн Сяопіна "Мір і развіццё — дзве буйнейшыя праблемы сучаснага свету" і Цзян Цзэміня "Патрыятызм і прызначэнне айчыннай інтэлігенцыі". Шырока прадстаўлены ў перакладзе на рускую мову кітайская проза і паэзія. У "Лавке букиниста" змешчаны кітайскія народныя казкі. Аб стане літаратуры братняй краіны можна даведацца з артыкула Г. Кашубы "У люстры гісторыі", у якім, у прыватнасці, прыводзяцца такія красамоўныя лічбы: "Цяпер Саюз кітайскіх пісьменнікаў налічвае звыш 12 тысяч членаў. У КНР выдаецца больш як 500 літаратурна-мастацкіх часопісаў... Пасля 1978 года ў сярэднім штогод у Кітаі друкуецца 100 раманаў, адна тысяча аповесцяў, 10 тысяч апавяданняў. Тыраж перыядычных выданняў перавысіце 250 мільёнаў экземпляраў". Завяршае нумар слова галоўнага рэдактара "ВЛ" Т. Бондар "Краіна, у якой я ніколі не была". А адметнасць яго і ў тым, што багата ілюстраваны каляровымі здымкамі.**

ПАМЯЦЬ

# Падказка нам — з чаго смяёмся мы

Здаецца, варта мне апынуцца на ўзбярэжным пагорку над ціхабежнай плынню жамчужна-блакітнай Дзвіны, і я адразу ўбачу той шырачэзны пень, напамін пра віцебскі дуб, які шумеў тут некалі лістотай не адзін век. І сядзіць на тым пні, скрыжаваўшы ногі і паклаўшы галаву на сціснуты кулак, задуменны... Божачка! То ж Аляксандр Канстанцінавіч Ільінскі. Чаму ён абраў позу знакамітага "Мысліцеля" Агюста Радэна? Жарт камедыйнага акцёра? Ці ўздумалася яму на бязлюддзі выканаць эцюд, паводле "сістэмы Станіслаўскага", на тэму "публічнай адзіноты"? Заўжды такі ветлівы, вясёлы і гаваркі, зараз ён нібы заглыбіўся ў самога сябе. Вось дык штука! Заспеў вядомага артыста на такім учынку, што і не разгадаеш: ён на самай справе засмучоны і нікога вакол знаць не знае? Або дэманструе сваю насмешлівасць: глядзіце, маўляў, які з мяне "мысліцель"? Яго ж у Віцебску, кожны, бадай, сустрэчны-папярэчны ведае! Я вунь гады ў рады з ім бачуся і тое здалёк пазнаю — Ільінскі на пяньку...

Што граху таіць, было і я думаў, што і такім чынам некаторыя артысты заваёўваюць папулярнасць у гледачоў. Што ні крок, то і акцёрства з гэтымі прытворнымі грымасамі і напышлівымі словамі. Ну а комік абавязкова блазнуе! Арлекін у такім чалавеку не засынае ні на адну хвіліну. Пасыпаю попелам галаву сабе, ды што было — тое было. Калі я пазнаёміўся бліжэй з гэтым сур'ёзным і дапытлівым дзеячам сцэны, маё тадышняе меркаванне наконт "крыўляк" звялося на нішто. Так, Аляксандр Ільінскі — камедыянт! Стаўлю клічнік, бо сам ён, не памятаю, з якой нагоды, менавіта так выказваўся: "Я — камедыянт!"

— Народжаны ламаць камедыю? — уставіў сваё тры грошы я.

— Знаёмы каменьчык у наш гародчык! — адпарыраваў Аляксандр Канстанцінавіч. — Але,ягамосці, пасмешыць вас спяшаемся, калі вы да нас у госці ў партэр завітаеце або ў бельэтаж. За тое і хлеб ямо!..

Я адразу ўцяміў: на мазоль наступіў артыста. Ды якога! Толькі што спяваў яму дыфірамбы за яго Несцерку і параўноўваў з ягоным хітрым царадворцам Палоніем, які ў тым жа "Гамлеце" раптам да непазнавальнасці пераўвасабляўся ў Першага далакопа. Зусім палярныя дзве ролі ў адным спектаклі! Прыдворны саноўнік і небарака з рыдлёўкай на могілках. Абодва прасякнуты камедыйным напалам. Нешта не магу прыгадаць другога такога выпадку на беларускай сцэне. І собіла ж мне з гэтым ка-ме-ды-янтам выткнуць нос! Наш брат з ліку тэатразнаўцаў любіць памянташыць языком, што праўда то праўда.

І як хацелася мне потым нізка схіліць галаву перад гэтым чалавекам, які за словам, як я ведаў ужо, у кішэню не палезе. І цвіком у галаве сядзіць маё маўленне пра сваё камедыянства Аляксандра Канстанцінавіча. Цякла-струменіла гаворка наша застольная, і так жыва і ладна, нібыта на якія вагі выкладаў ён запаветнае слова без крыўды на маю недарэчнасць. Не наўзгад глыбінны роздум яго ад нечага зусім асабістага сягаў да вялікіх абагульненняў. Мне тады падумалася, што акцёрскі розум бывае падобным, так бы мовіць, да самацвета ў аправе сыграных ім на сцэне роляў. Камедыйны акцёр, комік — гэта ж у вышэйшай ступені сур'ёзны суддзя недасканаласці чалавечага роду, які абкладае свой саркастычны прысуд каскадам смешнага штукарства.

Мудрасць, да якой я прычыніўся тым разам, артыст спасцігае пачуццёва. Скурай сваёй. Хваляваннем. Узбуджаным тэмпераментам. Страсцю душы сваёй. Гэта не рацыянальная выснова кабінетнага інтэлектуала; гэта — асабістае адкрыццё, можа быць, і даўно адкрытых і недзе па-навуковаму запісаных ісцін. Наша размова мелася ў пару, калі Ільінскі быў у росквіце сваёй прыгожай абаяльнасці, карыстаўся вялікім і, дарэчы сказаць, даволі старанна падаграваемым поспехам у паклонніц і паклоннікаў. Помню адну фарсістую даму з ліку "высокапастаўленых" жонак, якая віталася з ім гэткім рэверансам, абавязкова прыпяваючы: "Кумір мой". І чулася ў ягоным тоне гэткая самаўпэўненасць улюбёнца шчасця. Ды не, значная артыстычная асоба накшталт яго — гэта тая рэальнасць, якую чалавек спасцігае ў самім сабе і адначасова стварае знутры, з сярэдзіны свайго духа і сваёй плоці. Такі творца бывае ў нечым непахісна цвёрда пераканаиы, ды не бывае ў яго апломбу ўсезнайкі.

Што ж адкрывалася перад беларускім камедыянтам Ільінскім у такіх ролях, як вядомы манюка Іван Аляксандравіч Хлестакоў і вясковы гандляр галлём, якому выпадае ператварацца ў... лекара, Сганарэль ("Лекар мімаволі" Мальера), весялун-дармаед пры багацеі Рабінзон і такі ж бедачына з вандроўных блазнаў Аркашка Шчасліўцаў ("Беспасажніца" і "Лес" А. Астроўскага), кемлівы хітрун і спрытны манюка Несцерка і гэты заўзяты хабарнік і зводнік станавы прыстаў Кручкоў ("Пінская шляхта" В. Дуніна-Марцінкевіча), здзяцінелы генерал Печанегаў і плюгавы арыстакрацішка Барон у "Ворагах" і "На дне" М. Горкага... Вой, здаецца, я ўзяўся спісваць рэпертуар славутасці.



Спыняюся. Паспрабую сказаць "як" ігралася ўсё гэтае нашым чарадзеем камедыйнай творчасці.

Ну вось вам Палоній. Любімая дачка прызнаецца бацьку, што прынц Дацкі, сам Гамлет, прыгажэй і велічней за якога няма нікога на свеце, "прысягаў, што ён кахае" яе, "ён браў за сведку неба". О, несусветны юрлівец у маладыя гады, Палоній з веданнем справы адказвае: "Сіло для смачных птушак. Знаю сам. Калі бушуе кроў, тады язык на абяцанкі шчодры..." Але, гэта клопат бацькі — папярэдзіць любае дзіця, каб не была тая дзева такой даверлівай. Правільна! Ды ў маўленні гэтых "сма-а-ач-ных пту-у-ушак" чулася нейкае водгулле ягоных, Палонія, колішніх, даўніх ужо захапленняў. Салодкія прамовы ды залётніцкія прысягі на вернасць ён сам — во! — ведае як малітву. Гэта і адчуваецца ў інтанацыях голасу. У нібы раптам памаселеных зрэнках. І язык з-пад сівых вусоў аблізвае губы, па-свойму смакуючы тое "на абяцанкі шчо-о-од-ры". А вочкі закацілісь ў гарэзліва прыжмураных прыпухлых павеках. На твар набягае ўсмешка пажадлівага міфічнага Сатыра, якому карціць прывабіць легкаверную німфу.

Такія нюансы — як імгненныя ўспышкі няспыннага жыцця акцёра ў вобразе. Амаль непрыкметныя, ледзьве ўлоўныя, зусім мімалётныя. Падкрэслю: імправізацыйна ўнесеныя ў ролю вось зараз і тутака, на нашых вачах. Колькі ў падобных мастацкіх штрыхах-нюансах было выразна падтэкставай глыбіні! І ўправу кажуць: майстра сцэны вось так умее "валачы" за сабой шлейф ранейшых прыгод свайго героя.

І той самы Палоній тлумачыць Клаўдзію і Гертрудзе, чаму, мяркуючы па ўсіх паводзінах-учынках прынца, Гамлет звар'яцеў. Заказаўся! "Я адкрыў прычыну галоўную вар'яцтва Гамлета", — чуеце? "Я!" Бацька Афеліі тут пераўтвараецца ў адмысловага палаца-

БАЛЕТ

# З гасцей — дадому

***Гаворым: балет! — маем на ўвазе: Елізар'еў... Бо ўжо амаль тры дзесяткі гадоў яго нязменнае (і дасюль незаменнае) творчае лідэрства вызначае гісторыю развіцця беларускага акадэмічнага харэаграфічнага мастацтва. Пад кіраўніцтвам Валянціна Елізар'ева Нацыянальны тэатр балета Беларусі жыве, нягледзячы на паўсюдныя сацыяльна-эканамічныя праблемы, больш-менш стабільна, упэўнена, з адчуваннем перспектывы.***

ВАНДРОЎКІ...

У кастрычніку паспяхова прайшлі гастролі трупы ў Галандыі, дзе беларускіх артыстаў ужо добра ведаюць, любяць і чакаюць з чарговымі візітамі. Адпаведна доўгатэрміноваму кантракту, у наступным годзе плануецца паказаць там спектаклі "Карсар", "Жар-птушка", "Лебядзінае возера" ды "Вясна свяшчэнная". Сёлета ж у гастрольным рэпертуары Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі былі "Рамэо і Джульета" (паказаны на розных пляцоўках 16 разоў) і "Лебядзінае возера" (паказаны толькі аднойчы).

Такім чынам, пятыя гастролі Беларускага балета ў Галандыі. Білеты раскупілі за два месяцы да іх пачатку. Выступленні ладкаваліся пераважна ў вялікіх залах (да 3,5 тыс. гледачоў), абсталяваных суперсучаснай тэхнікай.

Высокапрафесійным і чулым партнёрам аказаўся аркестр Львоўскай філармоніі пад кіраўніцтвам польскага дырыжора Я. Пшыбыльскага. Музыканты прыехалі ў Галандыю падрыхтаванымі, а для маэстра хапіла відэакасеты, дасланай з Мінска, і тэлефонных перамоваў з балетмайстрам, каб за адзіную рэпетыцыю напярэдадні першага спектакля дасягнуць суладдзя сцэны і аркестра. Толькі аднойчы, з-за немагчымасці размясціць музыкантаў для суправаджэння спектакля, артысты мусілі танцаваць пад фанаграму.

А публіка? Гарачэй, напэўна, прымаюць артыстаў толькі італьянцы. Нашы балетаманы, на думку В. Елізар'ева, больш спакойныя за галандскіх, якія свае эмоцыі выказвалі стоячы, з воклічамі "брава!" — аж пакуль артысты не перасталі кланяцца.

Крытыка? Яе рэакцыя будзе вядомая толькі месяцы праз два, бо сачыць за друкам "па слядах выступленняў" не выпадала: пасля чарговай імпрэзы трупа з'язджала ў іншы горад. Арганізатары гастроляў абяцалі сабраць водгукі прэсы і пераслаць



у Мінск. Праўда, з перакладам будзе складана: як заўважыў В. Елізар'еў, у тамтэйшым нямецкамоўным асяроддзі перыёдыка выдаецца па-галандску...

Аднак нават без водгукаў друку зразу-

вага інтрыгана. Маўляў, ён, вашая каралеўская вялікасць, не быў нямым слупом, не пазіраў праз пальцы, як людзі любяцца, і сам асабіста забараніў дачцэ спатканні з прынцам. А той... Саноўнік пачынае паказваць, што ж адбываецца з "тым": а той, "адхілены, спярша заныў (Палоній дае плаксівы тон), пасля пакінуў есці (прыпухлыя павекі адкрываюць вылупленыя вочы)... а потым страціў сон (вочы рыскаюць тудысюды)... пасля аслаб (пахіснуліся ногі і галава нікне)... пасля задумаўся (позірк — у неба, у нетутэйшую далечыню) і гэтак (пераходзіць да зусім дзелавой высновы) паступова (падкрэсліў — "не адразу!") скаціўся да вар'яцтва, дзе і трызніць на гора нам". Тое са скрухай вымаўленае "нам" азначае, што і на яго, Палонія, няўцешнае гора. Караля — і яго!

Доўгая завостраная барада клінам трапечацца. Лысіна ўзмакрэла. Спіна сагнулася ва ўгодлівым паклоне перад іх каралеўскай вялікасцю — Клаўдзіем і Гертрудай. Які выдатны дзяржаўны трыумвірат змоўнікаў! Трыумвірат, адзін з персанажаў якога — прыніжаны паслугач. Усімі паводзінамі Палоній артыста Ільінскага даводзіць манаршай уладзе, што гатовы на любыя ахвяры дзеля яе, улады, упэўненага спакою і шчасця. Толькі ж не забывайце, панове, што гэта ён, Палоній, вырваў вашага наследнага прынца з абдымкаў дзеўкі, якая з'яўляецца, на жаль, дачкой паслухмянага вяльможы пры дацкім троне. "Я-а-а!,. адкрыў прычыну..." і буду адкрываць. і вам пра тое даносіць. Каб у дзяржаве панавала, па-сучаснаму кажучы, стабільнасць. Вось такую эмацыянальна сэнсавую гаму рабалепнасці царадворца артыст раскрываў ці не самым мімалётным рухам павекаў... пальцаў рукі... мауленнем слоў і выклічнікаў... маўчаннем у паўзах... бляскам вачэй. Па-мастацку выдатна Аляксандр Ільінскі быццам бы мімаволі выдаваў самыя запаветныя памкненні і жаданні, намеры і гэтага смешнага да слёз у сваёй нізасці і вартага жалю чалавека.

Такая філіграннaя распрацоўка ролі зачароўвала гледачоў не асобнымі праявамі характару персанажа, а цэласным характарам чалавека пэўнага асяроддзя, пэўнай нацыянальнасці, пэўнага сацыяльнага статуса. Нездарма ж кажуць у артыстычным закуліссі: дасканалы акцёр — гэта майстра, які ператварае ў жывы сцэнічны вобраз сваю прагу да няэмушанага творчага акта. Твой сённяшні тэатральны герой не адно толькі яркая дзейная асоба драмы ці камедыі, хай сабе і бездакорна па-мастацку ўвасобленая. Твой герой — гэта ўвасабленне тваіго імкнення... тваіго жадання... тваёй мары... дасягнуць ідэала акцёрскай творчасці: поўнага зліцця з роляй. "Ты сам, відаць, ведаеш — казаў мне Аляксандр Канстанцінавіч, — што назва нашай прафесіі — акцёр — кораніцца ў паняцці "акт". Акт — падзея... здзяйсненне..."

Падзеямі ў гісторыі нашага акцёрства былі многія вобразы, пры ўспамінах якіх толькі па імені тэатрал адразу атаясамлівае ні з кім-небудзь іншым, а з ім — з Аляксандрам Ільінскім. Бо калі ён выступаў у такой ролі, як Несцерка, што лічыцца каронкай у рэпертуары Аляксандра Канстанцінавіча, тое было святам найвялікшага камедыйнага акцёрскага мастацтва. і такое ж свята арыгінальных артыстычных знаходак у спалучэнні з жыццёвым праўдападабенствам царавала, калі ён быў эпізадычным дзякам Бацяноўскім у спектаклі "Навальніца будзе" паводле трылогіі "На ростанях" Якуба Коласа. Без усмешкі нельга прыгадваць і яго хітравата-мудрых вясковых перасмешнікаў — дзеда Нупрэя і дзеда Снапка ў камедыях "Алазанская даліна" К. Губарэвіча і І. Дорскага і "Калі зацвітаюць сады" В. Палескага. А гэты ўсюдыісны раённы круцель пры партфелі "ўпаўнаважанага па нарыхтоўках" Моцкін, у каларытнай абмалёўцы якога Ільінскі па-творчы спаборнічаў з купалаўцам Уладзімірам Дзядзюшкам і ані не ўступаў яму ў маляўнічасці і тэмпераменце выкрыцця партыйна-дзяржаўнага махляра ("Выбачайце, калі ласка!" А. Макаёнка)... Спыняю сваё пяро, каб не перапісваць афішу Коласаўскага тэатра сярэдзіны XX стагоддзя!

Наўрад ці я зараз знаходжу самыя правільныя вызначэнні таго глядацкага адчування, якое з'яўляецца ў нас, калі мы ўспрымаем сапраўднае харство менавіта камедыйнага шэдэўра. А той жа Несцерка або дзяк Бацяноўскі былі шэдэўрамі акцёра Ільінскага! У мяне захавалася праграмка прэм'ернага ў кастрычніку сорак дзевятага года спектакля "Вяселле Крачынскага", на якой я занатаваў наспех адно выказванне Аляксандра Канстанцінавіча. Гаварылася тое ў застоллі ў гасцях у галоўнага рэжысёра тэатра ў Віцебску Аляксандра Браніслававіча Скібнеўскага. Яшчэ з часоў навучання ў Беларускай тэатральнай студыі ў Маскве ўрэзалася ў памяць студыйца Шурыка Ільінскага сентэнцыя аднаго з педагогаўмхатаўцаў. Быццам бы слынны Міхаіл Чэхаў, выдатным талентам якога, дарэчы, захапляліся ўсе беларускія студыйцы, аднакроць у пыле палемікі заявіў: няхай сам Станіслаўскі сцвярджае, што бог заўжды і ва ўсім — абсалютна! — справядлівы, я не веру і яму. Бо калі б то была існая праўда, тады мы з ім абодва, Станіслаўскі і Міхаіл Чэхаў, даўно апынуліся б у пекле. Акцёрства занятак карысны, але і грэшны...

— А вось смех нашага гледача, хай на якую хвілiначку, — сказаў мне Аляксандр Канстанцінавіч, нібы працягваючы ранейшую нашу размову, — але выбаўляе ад дарэмнага самаўзвелічэння.

Ці ж такое шчырае прызнанне артыста забываецца!

Пасля таго, як я ўдосталь на тае прэм'еры насмяяўся з Расплюева, якім ён паўстаў у выкананні Ільінскага, мне раптам захацелася не пацiснуць віншавальна руку артыста, а ўзяць яго за плечы і патрэсці: "Ці разумееш ты, Аляксандр Канстанцінавіч, **што** робіш з намі сваім Расплюевым!?". А падчас спектакля прыгадвалася і агульнавядомае, накшталт таго, што нашая тканіна чалавечага жыцця тчэцца з дзвюх разнавіднасцяў пражы — дабрачыннай і зладзеяватай. Бывае, якое здарэнне прымушае маўчаць тую частачку дурноты, што ёсць і ў разумнага, і абуджае нечаканa яркую дольку светлага розуму, якая маецца ў вісуса або тупіцы. У "Вяселлі Крачынскага" гэта бліскуча і па-акцёрску жыва раскрываў у Расплюеве незабыўны віцебскі артыст у цудоўным ансамблевым партнёрстве з Анатолем Шэлегам, які ў сваім Крачынскім даваў партрэт прафесійнага жуіра і артыстычна вытанчанага круцяля.

Сустрэчу з такім мастацтвам, мабыць, можна параўнаць з тым адчуваннем, якім мы бываем захоплены... якое напаўняе нас сама прысутнасць паблізу і побач мілай для нас істоты. Нечага невыказна дарагога.

"Хвароба свету людскага адвечная... — гаварыў Бернард Шоу. — Мы выкідаем на сметнік састарэлыя калаўроты і лакаматывы, аджылыя свае кнігі і легенды, аднак не здольны і не ўмеем пазбаўляцца ад забабонаў ні ў маралі, ні ў рэлігіі, ні ў палітыцы". Мне здаецца, што камедыйныя акцёрства такіх артыстаў, як купалаўцы Глеб Глебаў і Уладзімір Дзядзюшкін, як коласаўцы Аляксандр Ільінскі і Язэп Матусевіч, даюць нам арыенціры ў павуцінні хлусні і забабонаў, якія так абураюць таго ж Б. Шоу. Гэта маштабнае асэнсаванне адвечных тэм і праблем мастацкай творчасці.

Я заспеў яшчэ той час, калі ў касірак праз акенца пыталіся: "Сёння Ільінскі іграе? Тады два білеты ў партэр!" Кавалер вёў даму свайго сэрца ў тэатр паказаць самую прывабную тады артыстычную каштоўнасць Віцебска.

Суседнічаў я з такімі дамамі і разам з імі, хоць у адрозненне ад іх "Несцерку" глядзеў дзесяты ці які раз, але заходзіўся таксама са смеху, калі на вучоным дыспуце на пытанне шкаляра Самахвальскага "пан Несцяровіч" адказваў... Ну і вы ж, пэўна, помніце. "Ці не адкажа пан дыспутант, дзе, на яго думку, знаходзіцца цэнтр зямлі? — той "пан" міргае лупатымі вачыма. Аднак перапытвае, насупіўшы "па-вучонаму" бровы: "Сярэдзіна зямлі?" Ссоўвае шапку на патыліцу і, разявіўшы вобадам рот, быццам вось-вось выкрыкне "Эўрыка!", рашуча выстаўляе нагу і неабвяргальным тонам абвяшчае: "Вось тут!.. Якраз пад маёй левай нагой..." Тое "ле-эвай" падкрэслівалася здзекліва. Ён нават пытае Самахвальскага: "Хіба не бачыш? Тут, — пастукаўшы абцасам, сцвярджае Несцерка сваё "вучонае" меркаванне. — Тут і знаходзіцца сярэдзіна зямлі. Самы пуп!"

Мы смяяліся і з таго спрытнага мужыцкага дыспутанта. і з адуранага ім па-блюзнерску шкаляра, а недзе ў падсвядомасці ў нас абазначаўся ўласны одум. Сапраўды ж, што ні кажы, цэнтр сусвету для кожнага індывіду — гэта той край, родная старонка, тая глеба, з якой ён сэрцам неразлучны. Як тое праверыць? Слухаем Несцерку. Голас Ільінскага пераліваецца вясёлкавым дасціпам: "вымеры адлегласць ад маёй нагі, — тут хітрун падмігвае самаму ўсхваляванаму балельшчыку ў натоўпе Мацею: макам сядзе зараз іхны шкаляр! — Адмер да ўсіх канцоў зямлі. Калі будзе няроўна, тады са мной не згаджайся".

Не ведаю. Як вам, але падчас спектакля з удзелам Ільінскага мне здавалася зусім даравальным меркаванне чалавека пра самога сябе як пра цэнтр... сярэдзіну... як пра пуп зямлі. Прынамсі, артыст наконт такой "пастаноўкі пытання" сумневу не меў. Хоць і даволі наіўнае ягонае пераканане ды, відаць, і прымальнае для нас: асабістае "я" — гэта дамарошчанае бажаство, якому амаль усе мы, грэшныя, неўпрыцям і спадцішка курым чысты фіміям і ўсяляк даказваем сваю цнатлівую невінаватасць пры ўсякім выпадку.

Калі я пачуў гэтае "дамарошчанае бажаство" з вуснаў Аляксандра Канстанцінавіча, не стрымаўся і спытаўся: ці не ў хвіліны роздуму пра свой акцёрскі лёс мысліць ён такім чынам. і выглядае тады зусім сапраўдным мысліцелем па ўзоры радэнаўскай скульптуры, як гэта здараецца з ім ля ціхага плёскату дзвінскіх хваляў. Ой, як пацешна заспяшаўся ён адцураца і ад гэтай недарэчнай, на яго думку, мянушкі "мысліцель" у дачыненні да тэатральнага камедыянта, і ад не наўмысна прымаемай ім статуарнай позы. Не-не, на свеце няма нічога дасканалага настолькі, каб быць гарантаваным ад любых дакораў. Акцёр — тым больш!

— Дык ваша камічная ігра на сцэне, — дзёўбя сваё яму, — гэта мастацтва разумнага артыста, які клапоціцца аб адным: як палепшыць мяне, чалавека ў партэры або ў ложы. Я ж адно толькі смяюся і смяюся. і калі вы юмарыце, каб абудзіць ува мне маю перавагу над вашым персанажам, і тады, калі выкрываеце нешта агіднае быццам бы ў ім, у Хлестакове альбо ў Расплюеве, а я лаўлю, бывае, нешта заганнае ў самім сабе...

і тут артыст ільінскі, гэты камедыянтмысліцель, сказаў такое, чаго я ні ад каго ніколі не чуў і нідзе не чытаў: "Смех гледача ў тэатры — гэта попел..." Што за попел?! "Гэта попел тае драбніцы вашага патэнцыяльнага зла, якое тоіцца ў душы кожнага чалавека. Але, праўду кажучы, і сапраўды дамарошчанага бажаства. Попел, які сведчыць адно: штосьць ад зайздроснай рэўнасці... акрайчык палахлівая рабскай абачлівасці... драбок прагавітага ўладалюбства... штосьць ад вечнага нашага намагання выглядаць лепей, чым мы ёсць на самай справе... Яното, драбнюткае "штосьць", і спалена ў гледача падчас смеху ды рогату з таго ж Сганарэля альбо якога шкаляра ці Аркашкі Шчаслiўцава. Так-так, невялічкая частка з гэтых "штосьць", можа, і не зусім канчаткова, але ў ходзе камедыі згарае... Ачышчаецца душа, ачышчаецца..."

Я веру, што і ў праўду ў гэтым сіла і харство камедыянства ўвогуле і творчай ахвярнасці такога вялікага таленту, якім быў Аляксандр Ільінскі.

**Барыс БУР'ЯН**

мела: Беларускі балет у Галандыі даспадобы. Хаця і ўласнае харэаграфічнае мастацтва там на вышэйшым узроўні. Дзяржава мэтанакіравана ўкладае ў яго грошы, матэрыяльна-тэхнічная база тэатраў удасканальваецца і абнаўляецца, творчы працэс максімальна камп'ютэрызаваны. Верхняя мяжа кошту білетаў рэгулюецца дзяржавай і не перасягае 69 долараў (даражэй каштуе наведванне балета ў Вялікабрытаніі ды Германіі).

Візітоўка харэаграфічнага мастацтва краіны — мадэрн-балет. У гэтым жанры працуе каля дзесятка партатыўных, па 10-12 чалавек, мабільных калектываў, якія рыхтуюць пастаноўкі на музыку, "прыгатаваную электроннымі мазгамі, з разнастайнымі шумавымі эфектамі" (паводле вызначэння маэстра В. Елізар'ева). Яны шмат вандруюць і асабліва высока каціруюцца ў краінах Еўропы.

Ёсць у Галандыі класічны балет, які вельмі добра субсідзіруецца — асабліва каралеўская балетная трупа. Узровень — дыхтоўны. Дарэчы, у краіне шмат балетных школ: гэта справа годна развіваецца на прыватнай аснове. Наогул жа, галандцы вельмі сур'ёзна ставяцца да мастацкага выхавання. Маюць праграмы па ўсіх жанрах, скіраваныя на культурную асвету дзяцей, моладзі. Улічваюцца і эстэтычныя патрэбы людзей пажылых: для іх таксама забяспечваюць наведванне тэатра, набываюць білеты...

Для Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі сёлетні год на гастролі багаты. Пачаўся ён з паказу спектакля "Страсці" ("Рагнеда") у Вялікім тэатры Расіі. У траўні — поспех на XVI Міжнародным фестывалі "Лодзьскія балетныя сустрэчы". Летам адбылася незабыўная вандроўка ў Турцыю ды на Кіпр (хіба забудзеш, як разгортвалася дзея "Спартака" ў натуральных дэкарацыях — колішнім старажытнарымскім збудаванні!). Цяпер вось — Галандыя. А на пачатку года 2002-га плануецца творчае падарожжа ў Кітай ды Ганконг са спектаклямі "Дон Кіхот" і "Лебядзінае возера".

## ПЛАНЫ...

З 20 лістапада ў зале тэатра пачынаецца праца над спектаклем для дзяцей — "Беласнежка і сем гномаў" на музыку польскага кампазітара Б. Паўлоўскага. Балетмайстар-пастаноўшчык — Наталля Фурман, вучаніца В. Елізар'ева, вядомая, прынамсі, сваёй працай над балетам "Макбет" на музыку В. Кузняцова. Сцэнаграфія Святланы Шалейнікавай. Неабыкавы да творчасці сваіх выхаванцаў, В. Елізар'еў "хварэе" і за будучы спектакль Уладзіміра Іванова, які працуе над "Мефіста-шоу" (кампазітар У. Кандрусевіч, лібрэта Ю. Чурко) для Дзяржаўнага музычнага тэатра Беларусі. Сам жа разам з Вячаславам Кузняцовым распрацоўвае ідэю будучага маштабнага твора, назва якога гучыць пакуль так: "Цэзар, Антоній і Клеапатра"...

7 снежня мае адбыцца вялікая святочная імпрэза: уручэнне традыцыйнай штогадовай прэміі "Філіп Морыс-Дэбют", прымеркаванае да паказу адной з самых раскошных прэм'ер беларускага балета — "Спячай прыгажуні" П. Чайкоўскага.

## ПРАБЛЕМЫ?..

Падчас гастроляў найбольш ярка паказалі сябе салісты Кацярына Фадзеева, Жана Лебедзева, Уладзімір Далгіх, Аляксандр Фурман, Ігар Сядзько, Руслан Мінін... Пра іх найчасцей згадваў замежны друк. Яны — сённяшняе аблічча беларускага балета, яго, паводле слоў мастацкага кіраўніка тэатра, "маладыя твары, маладыя сэрцы, маладыя вочы". Спрактыкаванасць дорага каштуе, але ў мастацтве балета асабліва цэніцца маладосць.

Як жывецца ім у тэатры? Магчыма, цяжэй, чым жылося артыстам папярэдніх пакаленняў. Магчыма, вальней. Бо В. Елізар'еў мудра ставіцца да імкнення маладых зарабіць на больш-менш бядбеднае жыццё: пашанцавала салісту на замежны кантракт — калі ласка, з'язджай, працуй, толькі не забывайся плаціць падаткі роднай дзяржаве, якая дала табе магчымасць набыць прафесію і выйсці на самастойную творчую дарогу. Цікава, аднак, што шукальнікі саладзейшага хлеба не-не дый вяртаюцца ў Мінск. Родны тэатр прымае іх. Але на строгіх умовах кантракта...

Лічбы ў творчай справе — рэч адносная. Але часам і яны ўспрымаюцца мацней за самы трапны і красамоўны мастацкі вобраз. Як вам, напрыклад, вось такая "метафара": дзяржаўная датацыя Варшаўскага Вялікага тэатра ў год складае 20 мільёнаў долараў, што адпавядае суме, якая выдаткоўваецца нашай дзяржавай на штогадовую падтрымку **усяго** беларускага мастацтва, уключаючы самадзейнае...

"Красамоўная" лічба была названа падчас прэс-канферэнцыі ў Нацыянальным акадэмічным тэатры балета.

Праўда, ёсць іншыя лічбы. Беларусь, відаць, адзіная на постсавецкай прасторы краіна, якая захавала паўнавартасны балетны тэатр. У многіх гарадах былога Савецкага Саюза такія тэатры проста разваліліся, у Туркменістане балет афіцыйна абвешчаны мастацтвам, варожым нацыянальнаму менталітэту і мусульманскім традыцыям. Балет Вялікага тэатра Масквы мае ў рэпертуары 7-8 спектакляў, Санкт-Пецярбург трымае на афішы крыху болей назваў — за кошт "харэаграфічнага музея". Беларускі балет пад кіраўніцтвам В. Елізар'ева захоўвае ў рэпертуарным активе 28 (!) твораў харэаграфічнага мастацтва! І ўсе яны — у адпаведнай сцэнічнай форме. І гатовыя прыняць папаўненне ў сваю стракатую кампанію за кошт новых прэм'ер...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: сцэна са спектакля "Рамэо і Джульета".*

**Фота В. МАЙСЯЁНКА**

*13 гадоў таму, 20 лістапада 1988 года, памёр мой Тата — акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Амаль на Дзяды. У гэтыя дні памяць больш яскрава высвечвае яго аблічча, яго постаць, усё яго жыццё... А жыццё было такім складаным, такім нялёгкім, а нярэдка і трагічным. Як і многія беларускія інтэлігенты таго часу, ён прайшоў страшэнны гулагаўскі лабірынт сталінскага бальшавізму. Я зайсёды здзіўляўся мужнасці гэтых людзей. Што ім дапамагала перанесці ўсе тыя жудасныя пакуты і ўсё ж заставацца сапраўднымі добразычлівымі людзьмі з чыстымі душамі? Гэта — прага да жыцця, бязмежная любоў да сваёй Бацькаўшчыны, уменне знаходзіць задавальненне ў рознай, як разумовай, так і фізічнай працы, а каму пашчасціла — вялікае каханне...*

*Мы справядліва схіляем галаву перад мужнасцю, вернасцю, магутным каханнем дзекабрыстак. Але многія беларускія жанчыны — жонкі рэпрэсаваных "нацдэмаў" — перанеслі непараўнальна значна большыя пакуты, праявілі здзіўляючую мужнасць, адданасць сваім абраннікам. Да такіх гераінь належыць Ганна Іванаўна Бабарэка, Марыя Пятроўна Дубоўка, Аляксандра Ігнатаўна Смоліч, Леаніла Усцінаўна Чарняўская-Гарэцкая і інш.*

*Такой была і Ларыса Восіпаўна Парфяновіч-Гарэцкая з Беластока, з якой Гаўрыла вучыўся разам у Пятроўскай (Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі ў Маскве. Яны актыўна ўдзельнічалі ў працы Беларускай культурна-навуковай асацыяцыі пры акадэміі, якую Гарэцкі арганізаваў і быў яе старшынёю. Многія студэнты акадэміі тады жылі ў невялічкіх пакойчыках на дачах, канфіскаваных савецкай уладай у былых "буржуяў". У 1922 годзе студэнта Гарэцкага арыштавалі, бо ён трапіў у пералік пра-дстаўнікоў той "вальнадумнай інтэлігенцыі", галоўным чынам прафесараў, якіх Ленін вырашыў выслаць за мяжу. Калі Гаўрыла сядзеў у турме на Лубянцы, адзіная любая сястра братоў Гарэцкіх Ганна, якая несла яму перадачу, трапіла пад трамвай і загінула. Адчай і роспач ахапіў Гаўрылу. Шчырае спачуванне і падтрымка Ларысы былі для яго выратаваннем. Яны пакахалі адзін аднаго і 8 ліпеня 1923 года сталі мужам і жонкаю.*

*У 1930 годзе Гаўрыла Гарэцкі, у той час акадэмік Беларускай акадэміі навук, дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі, быў арыштаваны і асуджаны да расстрэлу, які замянілі заключэннем у канцлагер тэрмінам на 10 гадоў. Пры канчатковай адсылцы ў Салаўкі ім удалося атрымаць спатканне ў Воршы. Праз некаторы час Ларыса (Лара, Ларута, як яе звалі родныя) разам з двума сынамі паехала ў пасёлак Мядзведжая Гара на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала, дзе Гаўрыла працаваў інжынерам-геолагам. У 1934 годзе з прымяненнем ільгот і залікаў працоўных дзён Гарэцкі быў датэрмінова вызвалены, але мей строгую прапанову заставацца працаваць у будаўнічых арганізацыях НКУС.*

*У 1937 годзе Гарэцкага зноў арыштавалі, праз тры месяцы выпусцілі, а ўжо 8 траўня 1938 года арыштавалі і асудзілі да расстрэлу. Гэты пяты ў яго жыцці арышт, які цягнуўся больш за год, быў самы цяжкі, бо турмы былі перапоўнены, умовы страшэнныя — допыты, карцэры, голад, катаванні. Дайшло да таго, што Гаўрыла папрасіў Ларысу перадаць яму лязо, але ўсё ж у яго хапіла вытрымкі не скарыстаць яго... 8 ліпеня з турмы Гаўрылу (Гурыку, як яго звала маці і жонка) удалося перадаць ліст, які нейкім цудам захаваўся да нашага часу. Відаць, таму, што гэты арышт быў апошні і вобыскаў-ператрусаў болей не было. Ліст напісаны алоўкам дробнымі літарамі на маленечкіх папяросных лісточках, якія "Київ-паліграф" выпускаў пад назвай "розкурка" ў якасці "цыгаровий папер". Гэты ліст я і прапаную чытачам "ЛіМа".*

**Радзім ГАРЭЦКІ**

# Ліст з турмы пра каханне

8.VII.38. Мая любая, любая! Мая самая дарагая, самая харошая, мая чыстая, сьветлая Ларута!

Вітаю Цябе з нашым радасным днём, з пятнадцацігодзьдзем нашага сумеснага шчасьця, шчасьця, якое не праходзіць, а ўсё паглыбляецца і павялічваецца.

Ня гледзячы на крыўды, мы спаткаем сёньняшні Дзень з Табою разам, злучанымі больш, чым калі б то ня было раней. І я так рад, што сёньня Ты сядзіш у коле самых блізкіх і дарагіх — сваёй мамы і татулі, сваіх харошых расточкаў, слаўных хлопчыкаў.

Сёньня Ты для мяне — само сонца, само шчасьце, уся радасьць, лятуценьне, імклівасьць. Ты ўвесь час стаіш перад маімі вачыма такая сонечная, сонечная, такая светлая, светлая, — такая, якой Ты была некалі на спатканьні ў Воршы, якой я Цябе сустрэў надоечы, ідучы з лазьні. Ты стаіш светлая, дрыжучая,маладая, прыгожая, прывабная, як кветка з расою перад усходам сонца. Ты ўся прамень, агністасьць, das Ewigweibliche. Якое шчасьце, што я Цябе маю. З Тваім дарагім вобразам прайду я дзесяткі год самых суровых іспытаў і застануся назаўсёды сьвежым, нязломленым, вартым Цябе. У хвіліны самай вялікай роспачы, самых цяжкіх перажываньняў, мне досыць зірнуць на Тваю сонечную постаць, што нашу я ў сваім сэрцы, каб адразу аднавіцца, страпянуцца, стаць сталёвым, маладым і трывалым. Ты ўсё для мяне — Ты мая мама, мая сястра, мой брат.

Сёньня абяцаю Табе, мая Ларута, што ў часіну самае лютае нядолі, калі трэба б было перастаць жыць, я ніколі не скончу самагубствам, я буду жыць для Цябе, для дзяцей, для радасьці хоць праз вузенькую шчэлінку бачыць Вас, ведаць, што Вы ёсьць на сьвеце, які ўжо праз адно гэта шчасьлівы для мяне, які не варта самахоць пакідаць ніколі.

З Тваім вобразам у сэрцы, у думках, я заўсёды шчасьлівы. Я крамяністы, зямлісты, сталёвы, я радасны ёсьць і буду, незалежна ад самых жудасных умоў. Цюрэмная камера для мяне не існуе, калі я з Табою ў сваёй істоце. Ты — мой Бог, мой сьвет, усё жыцьцё. Вось і зараз — я адчуваю сябе такім шчасьлівым, такім радасным, бо Ты са мною, Ты — мой шыльд, мая броня, мой талісман да самой сьмерці. Трэба спусьціцца ў пекла, каб адшукаць Беатрычэ. І я ўдзячны свайму лёсу, які разаслаў прада мною такі цярністы шлях, бо я адшукаў сваю Ларуту, я зразумеў вялікасьць яе каханьня, я стаў узьнімацца на ўзровень гэтае вялікасьці, я пазнаў глыбіню любові. Так, я сапраўды шчасьлівы. І быў б шчасьлівымі мае бедныя мама і Гануля, каб пабачылі яны Цябе ўва ўсёй прыгажосьці Тваёй істоты.

Для майго самага поўнага шчасьця не хапае толькі аднаго — каб і ў Табе замацаваліся падобныя ж адчуваньні. А што яны ў Табе ёсьць, што яны зарадзіліся ў Табе даўно, яшчэ з 1930 году, — я гэта ведаю. Каб толькі яны ў Табе замацаваліся, сталі б Тваёй аховай, Тваёй пацехаю, Тваім талісманам. Бо мо' доўгія гады, мо' ніколі, ня будзем мы разам...

Сёньня разам з Табою сядаю я ў легкакрылую калясьніцу ўспамінаў. Мігцяць, лятуць, мінаюць дні, гады.

Вось я бачу Цябе маленькую з цікаўнымі ўпартымі вачыма, "маця, маця". Вось Ты — вучаніца, з доўгімі косамі, з кволай постацьцю, дробненькая, але такая сабраная ў камок, такая суцэльная, недачэпная, зноў "маця". Нявыразная, глыбокая цікавасьць да жыцьця, імклівасьць — сьвецяца ўжо ў Тваіх вачах.

Вось Ты — мятлік. Першыя праявы чароўнай, невычэрпальнай, прыгожай жаночасьці. Гнуткая і кволая постаць, вартыя найвялікшых твораў скульптуры ногі і рукі, вочы маленькай Джыаконды, высокі горды лоб, сьветлякі — вочы. У маладой дзяўчынцы ўжо віднеецца вобраз вялікай жанчыны.

Вось Ты ў Аўсянікаў[1]. Фізічнае разьвіцьцё. Дзевачка пераходзіць у дзяўчыну. Думкі заклапочаны, у выглядзе — няўпэўненасьць, нібы сірата ці выхаванка.

Бачу Цябе з братам. Ты ўжо дзяўчына. Скромная, ахопленая думкамі пра жыцьцё, пра будучыню. У выглядзе — ідэёвасьць намераў, сур'ёзнасьць, сталасьць.

Цяпер я бачу Цябе ў Акадэміі. Няшчасны для мяне 1922 год. Год, які зрабіў няшчаснай усю нашу сям'ю. Сьмерць Ганулі. Роспач.

Невялічкі пакой у Нужнаўцы. Валя і Ты. Мы сядзім ля стала. Ты глядзела спуджанымі вачыма, поўнымі страху і шчырага спачуваньня. Твая шчырасьць, дрыжэньне Тваіх вачэй, Твая чыстата і спачуваньне — з'явіліся для мяне сапраўдным бальзамам. Зоркай надзеі заблішчэлі для мяне Твае вочы ў цьме адчаю і безнадзейнасьці. Я палюбіў Цябе ў гэты момант.

А вось невялікі пакойчык ля Садаводнага Гуртка, дзе Ты жыла. Ты выратавала мяне ў гэтым пакоі. Колькі шчасьця выпала мне на долю ў той цяжкі час. Колькі глыбокіх ран залячыла Ты. З якім аблягчэньнем выходзіў я ад Цябе. Ты шчыра дзяліла са мною ўвесь цяжар няшчасьця. З якой прыемнасьцю і радасьцю ўспамінаю я нашы сустрэчы ў Тваім пакойку. Вось мы сядзім ля мяхоў з мукою, бегаюць смаллянкі, цішыня ночы пануе наўкола. Я бачу зоркі Тваіх вачэй, чую Твой грудны голас, такі мяккі, ласкавы, спачуваючы. Я хацеў бы нанава радзіцца, каб зноў спаткацца ў Тваім пакойку.

Ішло нашае збліжэньне, часамі няроўнае, з чыстымі "бахамі", якія заўсёды ўнасіліся мною. Я праваджаю Цябе на апошні трам. Развітаньне з захованай крыўдай, але Ты адразу ж адчула. Ты вярнулася, кінуўшы апошні трам. "Ну, што жа гэта, Гурык?" — сказала Ты з трывогаю і сьлязьмі ў голасе. Мне было сорамна.

Якой лёгкай і кароткай здавалася нам дарога ад Пятроўкі да Мяшчанскай. Мы разьвіталіся і не змаглі пацалавацца. Нанова мы б зрабілі інакш цяпер.

Зімні адпачынак. Гістарычныя для нас карталюшкі. "Вітаю сонца. Ваўчанё". Прызнаньне.

Сход Гуртка КОА. Ты ўнікаеш мяне, Ты баішся спатканьня пасьля такіх слоў. Я шукаю Цябе. Наша гамонка.

Пакой Асацыяцыі. Паленьне паперы. Першыя пацалункі. Я адчуваю дрыжэньне і парывістасьць Тваіх вуснаў.

Ніхто ў сьвеце ня можыць так горача, так шчыра, так дрыжуча, так непаўторна цалаваць, як Ты. Я цалую Цябе, Ларута. О, мая любая, маё шчасьце.

Помніш вясельле Мікіты? [2]Якая Ты была няроўная ў той вечар у садзе. Я адчуў Цябе блізкай, дарагою.

Помніш нашы зімовыя прагулкі да Галенкінай дачы? Колькі радасьці, колькі насалоды, колькі салодкіх хвілінак.

Прыйшла вясна 1923 году. Я бачу купкі бяроз па дарозе на вашу дачу і тыя сьцежкі, дзе мы гулялі.

Учора і пазаўчора былі грозы. Я вельмі люблю грозу, гэта гул пяруноў, блісканьне бліскавіц і шум дажджу, дружны і супакойваючы. Учорашнія грозы напомнілі мне тую гістарычную для нас грозу, калі мы з Табою былі на верандзе вашае дачы начою. Ты баялася грозы, Ты дрыжэла.

Я ўсё расказаў Табе. Як мудра Ты да ўсяго аднеслася. Якая радасьць была мне ад прызнаньня, ад падзеленай цяжкасьці, ад Твайго разуменьня. Якая Ты мне стала блізкая, блізкая. Мая парыўнасьць хацела пераканацца, што сілы жыцьця не памерлі. Як ты спужалася. "Толькі ня тут..." Мы пайшлі з Табою па роснай траве. Як была лёгка, як радасна.

Мы з Табою паехалі ў Маскву. Якая Ты была мілая, кудлатая, з пахучымі валасамі. Ты мне падаравала пучок кветак. А сама не ўзяла нічога, хоць была галодная.

Мая дарагая Ларута! Якім залатым сном здаюцца тыя дні, якім бліскучым шчасьцем. Я не магу спакойна ўспамінаць гэты час. О, мая кудлатая дзяўчына, бязьмежная мая радасьць. Любая мая, любая! Колькі ў Табе хараства, колькі чароўнай непасрэднасьці, парыўнасьці. Чыстае маё, радаснае каханьне.

І вось наш дзень — 8. VII.23 г. Такі просты, без вясельля, без банкету, без музыкі. І які шчасьлівы, харошы дзень, поўны няўміручай музыкі каханьня, поўнай адданасьці. Я ўзяў Твой кошык з рэчамі, і мы на траме паехалі на Выселкі, у дом Гімры. Тагочасны шлюбны поезд.

Мы з Табою ў невялічкім пакойчыку ў Гімраў. Сінія з срэбрам абіўкі. Бліскучым, як срэбра, бязмежна глыбокім, як сіняе неба, было нашае шчасьце. Надаечы я ўбачыў такія ж сінія з срэбрам абіўкі — гэта нагадала мне наш Вялікі дзень. Як хацелася б паўтарэньня. Я зноў зрабіў бы так, як было зроблена, хоць бы я і нанава радзіўся.

Родная мая Ларута! Якія ж мы з Табою былі ў той час шчасьлівыя, харошыя. Колькі радасьці, колькі сонечнасьці было ў нас. І якая радасьць адчуваць, што гэтая сонечнасьць не мінула і зараз праз 15 год. Мне здаецца нават, што я люблю Цябе яшчэ больш моцна, больш глыбока, аддана, бязьмежна. Для мяне Ты вечна маладая, вечна жаданая, вечна прывабная.

Прайшло 15 год. А здаецца, што дзеялася ўсё толькі нядаўна. І тыя рамашкі, што былі на нашых шырмах, ня згубілі свайго колеру яшчэ й сёньня.

Я ўспомніў Наш дзень, і мне так хораша, хораша. Учора і пазаўчора я бачыў Цябе праз вакно, ранiцою, пасьля грозы. Ты была на працу йдучы, надзявала свой залацісты макінтош. Сёньня я бачыў маці і бацьку, і нашых хлопчыкаў, як яны бегалі па берагах рэчкі. Мне было так прыемна.

Некалі Твой вобраз быў зьвязаны з белым макінтошам і белай хусьцінкай. Ты ўся была белая, белая, як першая кветка. Зараз Ты залацістая, сонечная, і да гэтага так пасуе залацісты макінтош.

Мы зьбіраліся ўрачыста справіць наша 15-годзьдзе, быць толькі разам цэлы дзень. Вось мне і захацелася зьдзейсьніць нашыя намеры. Я цэлы дзень гаманю з Табою, я хаджу разам з Табою па шляхах мінулага. Мне хочацца, каб і гэтая пісулька нагадала Табе, што мы былі разам сваімі думкамі, сваім настроем, адчуваньнямі, што і надалей мы будзем разам.

Ня будзем сумаваць, гараваць. Загартуемся, панясем, захаваем нашае шчасьце ў нашых сэрцах глыбока, глыбока.

Думкамі я прабягаю ўсе нашы 15 год, я навучыўся ад Цябе бачыць толькі добрае і забывацца на злое. І таму ўсе гэтыя 15 год мне здаецца часта поўнымі радасьці, асабліва калі мы з Табою былі і фізычна і духоўна разам.

●

Позні час ужо. Не стэнаграфаванае пісаньне зацягваецца, думкі бягуць шпарчэй.

Дабранач на сёньня, мая галубка, дабранач, мая сонечная, ласкавая.

**Твой Гурык.**







*На здымках: студэнты Пятроўскай (Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі (Масква) Гаўрыла Гарэцкі і Ларыса Парфяновіч (красавік 1923 г.); акадэмік Гаўрыла Гарэцкі — дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна з жонкай Ларысай Парфяновіч-Гарэцкай і старэйшым сынам Усяславам (Мінск, восень 1928 г.); інжынер-геолаг Гаўрыла Гарэцкі пасля вызвалення з лагера і перад новым арыштам у кастрычніку 1937 г. (Мядзведжая Гара, 1936 г.).*

[1] *Сябры бацькі Ларысы, у якіх яна жыла, калі вучылася ў гімназіі ў Варшаве.*

[2] *Мікіта Лайкоў — сябра Гаўрылы і Ларысы, пазней — дацэнт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках.*

УГОДКІ

# Дастаеўскі хацеў пабываць на Віцебшчыне

***11 лістапада – 180 год з дня нараджэння вялікага рускага пісьменніка Фёдара Дастаеўскага. Міжволі згадваецца выказванне Івана Паўлавіча Мележа: "Схіляюся перад магутным талентам Ф. М. Дастаеўскага. Ганаруся, што карэньчыкі яго – у нашым Палессі". І гэта сапраўды так.***

Яшчэ 6 кастрычніка 1506 г. пінскі князь Фёдар Яраславіч выдаў грамату Данілу Іванавічу Ірцішчу на вечнае валоданне некалькімі дворчышчамі ў розных вёсках і сяле Дастоеве Пінскага павета Мінскага ваяводства Вялікага Княства Літоўскага. Ад назвы Дастоева і пайшло прозвішча дваранскага роду Дастаеўскіх.

Ёсць звесткі, што Ірцішч з'яўляўся "харобрым воем" князя і права на дваранства завяваў вайсковаю адвагай і вернай службай. Па другой версіі продак Данілы перайшоў у Літву з Маскоўскай дзяржавы ў свіце Фёдара Яраславіча, патомка князёў Рурыкавічаў.

Унук жа Ірцішча – Сцяпан Іванавіч Дастаеўскі валодаў Ушэсценскім праваслаўным манастыром у Мінску. У сваіх успамінах дачка пісьменніка Любоў пісала, што Сцяпан і быў роданачальнікам праваслаўнай лініі іх сям'і, і што Фёдар Міхайлавіч у гонар гэтага продка хацеў яго імем назваць свайго другога сына. Прычым, Сцяпан Дастаеўскі валодаў яшчэ маёнткам Сенніца. Менавіта гэты маёнтак праз тры стагоддзі арандаваў бацька Янкі Купалы.

Невыпадкова Ф. Дастаеўскі з павагай ставіўся да беларусаў: "Без народнай веры ў сябе і свае сілы не ўстаяў бы, напрыклад, на працягу вякоў беларускі народ і не выратаваў бы сябе ніколі". І хацеў пабываць на Віцебшчыне.

...Дробнапамесны дваранін, удзельнік баёў з турэцкімі заваёўнікамі В. Корвін-Крукоўскі ў 42-гадовым узросце выйшаў у адстаўку ў чыне генерал-лейтэнанта. Ажаніўся з 22-гадовай дачкой вядомага геадэзіста Ф. Шуберта Лізай. Пасяліліся ў яго спадчынным маёнтку Палібіна Віцебскай губерні (цяпер Вялікалукскі раён Пскоўскай вобласці Расіі).

У Корвін-Крукоўскіх нарадзіліся дзве дачкі – Ганна і Соф'я, якім Суджана было адыграць прыкметную ролю ў жыцці і творчасці Фёдара Міхайлавіча. Ганна ў 1864 г. хацела ехаць у Пецярбург на вучобу ў Медыка-хірургічную акадэмію (відаць пад уплывам М. Пірагова), але бацька не дазволіў ёй, сказаўшы, што кожная прыстойная дзяўчына да выхаду замуж павінна жыць дома. Што датычыць малодшай Соф'і, то ў яе рана выявілася прага да матэматыкі. Гэтая навука, па яе словах, прыцягвала да сябе больш за ўсё "сваім філасофскім бокам", адкрываючы "зусім новыя гарызонты". Ужо ў 11-гадовым узросце Соф'я па-свойму рашала даволі складаныя матэматычныя задачы. Потым зрабіла бліскучыя адкрыцці, якія прынеслі ёй сусветную славу.

Неяк сёстры засталіся ў палібінскім доме ўдвух. Ганна сказала, што калі Соф'я паабяцае маўчаць, то даверыць ёй вялікі сакрэт. Атрымаўшы згоду, паказала канверт з чырвонай пячаткай часопіса "Эпоха". У пісьме было напісана: "Міласцівая гасударыня Ганна Васільеўна! Ваш ліст, поўны такога мілага і шчырага даверу да мяне, так зацікавіў, што я неадкладна пачаў чытаць не без боязні: нам, рэдактарам, часта на долю выпадае сумны абавязак расчароўваць маладых, пачынаючых пісьменнікаў, якія прысылаюць нам свае першыя літаратурныя вопыты на ацэнку. У Вашым выпадку мне б было вельмі сумна. Але, па меры таго як я чытаў, мая боязнь рассейвалася і я ўсё больш і больш паддаваўся абаяльнасці той юначай непасрэднасці, той шчырасці і цеплыні пачуцця, якімі прасякнута Ваша апавяданне... Не ўгаю, ёсць яшчэ шмат недаробленага, прамерна наіўнага; ёсць нават, даруйце за шчырасць, хібы рускай граматы. Але ўсё гэта дробныя недахопы, якія, папрацаваўшы, Вы можаце асіліць..." і ўнізе стаяў подпіс Ф. Дастаеўскага.

А праз некаторы час у гэтым часопісе, які Фёдар Міхайлавіч выдаваў разам з братам Міхаілам, з'явілася апавяданне Ганны "Сон", потым – "Міхаіл"...

У 1865 г. сёстры разам з маці паехалі ў Пецярбург у госці да сваякоў Ганна адразу ж напісала Ф. Дастаеўскаму, што рада пабачыцца з ім, асабіста пазнаёміцца. Пісьменнік пайшоў ёй на сустрэчу. Адбылася першая сустрэча, другая... Ф. Дастаеўскі размаўляў, жартаваў, смяяўся з сёстрамі, як з даўнішнімі прыяцелямі. Ён стаў у доме іх сваякоў сваім чалавекам. Часта спрачаўся з Ганнай, часам гаварыў з'едліва, называючы яе проста прыгожанькай немачкай, а ў Соф'і і твар больш выразны, і вочы цыганскія. І ўсё ж абодвух лічыў разумнымі, развітымі, літаратурна адукаванымі.


Ф. М. Дастаеўскі. Пачатак 1860 г.


А. Г. Дастаеўская — жонка пісьменніка.


Ганна Корвін-Крукоўская (Жаклар)


Соф'я К—Кр-я (Кавалеўская)

Дарэчы, некаторыя рысы псіхалагічнага і маральнага аблічча Ганны можна пазнаць у вобразе Аглаі ў "Ідыёце", Ахмакавай – у "Падлетку", Кацярыны Іванаўны – у "Братах Карамазавых".

Прайшоў некаторы час, і Г. Корвін-Крукоўская атрымала ліст ад Дастаеўскага, у якім гаварылася, што ён сустрэўся з дзіўнай дзяўчынай, якая згадзілася выйсці за яго замуж. Ёй была Ганна Рыгораўна Сніткіна, якая нарадзілася ў 1846 г. у сям'і пецярбургскага чыноўніка. Род яе бацькоў паходзіў з Палтаўскай губерні.

Аднак працягвае сустракацца з "нігілісткай" Г. Корвін-Крукоўскай. Гутарыць і спрачацца з Ф. Дастаеўскім для яе было вельмі карысным. Яна лічыла, што гэта абуджала ў ёй шмат думак, адкрыла вочы на многае ў навакольным асяроддзі.

І Соф'я падтрымлівала цесную сувязь з Ф. Дастаеўскім. Вельмі перажывала, калі ён хварэў: "Мілы Фёдар Міхайлавіч! Як гэта мяне засмучае, што Вы ўсё хварэеце. Я па Вас вельмі засумавала і некалькі разоў ужо збіралася заехаць да Вас. Але мяне толькі стрымала думка, што Вы, мабыць, цяпер вельмі заняты, і я, бадай, буду недарэчы. Гэта меркаванне ўтрымлівае мяне і цяпер. Буду чакаць, калі Вы выберацце вольны вечарок і прыедзеце да мяне. Галоўнае, папраўляйцеся хутчэй і ўстрымлівайцеся ад залішняй, асабліва начной работы..." (Ведома, што Ф. Дастаеўскі часта працаваў па начах. – І. Ш.)

Неаднаразова таксама звярталася да яго па параду, дапамогу. Напрыклад, дабілася дазволу на шлюб Веры Ганчаровай (пляменніцы А. Пушкіна) са званоленым Паўлоўскім, каб аблегчыць яго лёс, бо жанатым змякчалі ўмовы катаргі. Яна ж па просьбе Ф. Дастаеўскага ў маі 1877 г. прыслала яму некаторыя выданні свайго мужа, вядомага палеантолага У. Кавалеўскага, продкі якога па бацьку былі беларусы.

Ф. Дастаеўскі некалькі разоў імкнуўся пабываць у гасцях сясцёр Корвін-Крукоўскіх. Так, у красавіку 1866 г. ён у пісьме паведамляў аб тым, што хацеў бы прыехаць у іх Палібіна. Пра яго намер мы даведваемся і з ліста за 17 чэрвеня 1866 г.: "Вы хочаце прыехаць у Паўласк (пад Пецярбургам. – І. Ш.). Напішыце мне, калі менавіта гэта будзе? Мне б вельмі, вельмі хацелася пагасцяваць у Вас у Палібіне. Але ці магу я там так працаваць, як мне патрэбна? Гэта для мяне пытанне? Ды і не далікатна з майго боку прыехаць і цэлымі днямі працаваць. Напішыце мне праўсё. Калі ласка, не пакідайце мяне. Мой паклон усім вашым. Да пабачэння!"

Аднак пісьменніку так і не ўдалося ажыццявіць свой намер з-за інтэнсіўнай літаратурнай работы і недахопу часу.

У студзеньскім нумары часопіса "Исторический вестник" за 1888 з'явілася паведамленне, што ў канцы 1887 г. у Парыжы пасля цяжкай хваробы памерла руская пісьменніца Ганна Васільеўна Жаклар, ураджаная Корвін-Крукоўская. Літаратурныя здольнасці нябожчыцы, гаварылася, былі ўпершыню ацэнены Ф. Дастаеўскім.

Яе ж сястры С. Кавалеўскай, першай жанчыны члена-карэспандэнта па матэматыцы, механіцы і астраноміі, аўтара белетрыстычных твораў не стала ў 1891 г.

Сам жа Ф. Дастаеўскі 27 студзеня 1881 г. сказаў жонцы, што ў гэты дзень памрэ. А праз некалькі гадзін паклікаў сваіх дзяцей, каб развітацца з імі... назаўсёды.

**Іван ШПАДАРУК,**
**член-карэспандэнт**
**Міжнароднай акадэміі**
**інфармацыйных тэхналогій**

## Міхась ПАРАХНЕВІЧ



Пасля цяжкай хваробы 12 лістапада 2001 года памёр вядомы беларускі пісьменнік Міхась Парахневіч.

Міхась Прохаравіч Парахневіч нарадзіўся 20 жніўня 1934 года ў вёсцы Мінкавічы Старадарожскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння школы фабрычна-заводскага навучання (1952) працаваў электраманцёрам у Мінску. У 1953—1956 гадах служыў у Савецкай Арміі. Потым супрацоўнічаў у старадарожскай, парыцкай раённых газетах, а ў 1958—1961 гадах — у ерментаўскай раённай газеце Цаліна-градскай вобласці. З 1962 года — супрацоўнік газеты "Мінская праўда", у 1966—1967 гадах — газеты "Літаратура і мастацтва". Скончыў завочна філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна (1965), Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС у Маскве (1969). З 1971 года — інструктар аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ, затым — намеснік рэдактара газеты "Вячэрні Мінск" (1978—1990).

Літаратурнай дзейнасцю Міхась Парахневіч пачаў займацца з 1950 года. Выйшлі яго кнігі для дзяцей "Мы майструем самалёт" (1963), "Толікаў гай" (1965), "Дзядзька Толя — трактарыст" (1968), "Чырвоны аўтобус" (1973). Міхась Парахневіч — аўтар кніжак прозы "Грыбны дождж" (1969), "Зара-зараніца" (1975), "Абяцанне" (1976), "Модны гальштук" (гумарэскі, 1977), "Маё і тваё маленства" (1978), "Прыгарадная камандзіроўка" (1979), "Марыніка" (1983), "Чаромхавы ранні цвет" (1984), "Белыя цені бяроз" (1989) і іншых.

Міхась Парахневіч прымаў актыўны ўдзел у літаратурным і грамадскім жыцці рэспублікі. Яго творчасць прасякнута палымянай любоўю да Радзімы. Ён карыстаўся павагай людзей як стараны працаўнік і чалавек шчырай душы.

Светлая памяць аб таленавітым пісьменніку, які ўнёс свой уклад у развіццё нацыянальнай літаратуры, назаўсёды застанецца ў нашых спагадных сэрцах.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**



**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы Маі ЛЬВОВІЧ з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці маці.**

ПАРОДЫІ

*5 кастрычніка 2001 года чытачы "ЛіМа" пазнаміліся з чарговым гарбатасмакаваннем у гасцёўні Людмілы Рублеўскай. Два прафесары, тры паэты і сама гаспадыня — цьфу ты, і яна ж любіць сказануць то ямбам, то яшчэ якой трасцай! — тады чатыры паэты, размаўлялі пра сваё месца ў каардынатах паміж Раем і Пеклам, імкнучыся спасцігнуць адкуль у хітраспляценне звілін мазгоў гомасапіенса, хворага на вершаскладанне, залятаюць імпульсы духоўнасці і ці духоўнасць, нарэшце, гэта духоўнасць. Гутарка атрымалася надзвычай гарачая і эмацыянальная. На жаль, гарбата была выпітая ў самы разгар палемічных філасафасцвярджэннямаўленняў, а спадар Шніп затрымаўся дзесьці, таму, зразумела, кіпеню не хапіла, а са звычайнай халоднай вадой размова магла закончыцца нямцоўска-жырыноўскім твараабмываннем, таму вырашылі эстафету перадаць усім жадаючым з ліку чытачоў.*

*Чытачы асаблівай актыўнасці не праявілі, але — відаць, наканавана было ці то Богам, ці то Сатаной — з'явілася ідэя паўтарыць дыскусію прыкладна па той жа самай тэме. А ініцыятарам з'явіўся Вядзьмак Нелысагорскі, які ўжо аднойчы быў у гасцёўні. Ён планаваў і 5 кастрычніка падключыцца да размовы, але па дарозе ў гасцёўню ўбачыў Шніпа, які на вуліцы Розы Люксембург абзываў апошнімі словамі нейкага Граждана. Вядзьмак хацеў лепш разгледзець Граждана, ды ўступіў якомусьці сабаку на лапу, а той грызануў за нагу. І Шніп перапужаўся надта ж моцна, ажно пабялеў, і сказаў: "Хутчэй бяжым у бальніцу, калі не хочаш ашалець!" Нелысагорскі запярэчыў: "Давай лепш сходзім у вашу гасцёўню, а я потым замажу гэта кусанне якой-небудзь маззю". — "Братка, будзе позна, я — у сабаках разбіраюся!" — залямантаваў Шніп, схапіў сваёй кароткай, але ўчэпістай рукой Нелысагорскага за хлясцік курткі і павалок супраць ветру, які ўзлахмачваў і так уздыбленыя валасы.*

*Пра ўсё апавядаць — месца займаць, таму коратка: Вядзьмак Нелысагорскі настойваў, што без яго гутарка 5 кастрычніка ў гасцёўні не дасягнула мэты, як бамбардзіроўкі ЗША па Усама бену Ладэну. Людміле Рублеўскай не заставалася больш нічога, як згадзіцца, тым больш што Нелысагорскі прэзентаваў мяшок (!) цукру і пачкарабка зялёнага чаю.*

*У гасцёўню завіталі ўсе тыя ж самыя людзі, акрамя Усевалада Гарачкі, які захварэў, але яго замяніў Віктар Шніп. Ну й пачэснае месца побач з Уладзімірам Конанам заняў Вядзьмак Нелысагорскі, які на пытанне Галіны Дубянецкай "Хто вы, паэт ці празаік?" адказаў упэўнена-горда: "Я — ўсё! Я — універсал!" У Шніпа пры гэтых словах нарадзілася ў левай палавіне душы трывожная думка: "Колькі ж на гэтага універсала спатрэбіцца сала?"*

*Дарэчы, сала на гэтай сустрэчы было белае-белае, як папера вышэйшага гатунку.*

# Пегас і Муза — яны ад Бога ці ад д'ябла?

**Людміла Рублеўская.** Пачну з аб'яў. Акудовіч зноў пажадаў выказацца асобна. Ён ці то сала не есць і не пераносіць яго пах, ці то нейкія іншыя прычыны. Што ж, жартам кажучы, кубачак гарбаты зэканомім. Дый сёе-тое іншае.

**Вядзьмак Нелысагорскі.** Каб пабачыў гэта "іншае" Сыс, то ён абавязкова сюды б прыйшоў.

**Людміла Рублеўская.** Знаёмцеся — Вядзьмак Нелысагорскі. Ён у нас ужо аднойчы быў. Іван Чарота павінен помніць. Вы, шаноўны Вядзьмак, дрэнна знаеце Анатоля: дзе столькі "іншага", ён у тым накірунку і два крокі не зробіць.

**В. Нелысагорскі.** Зробіць-зробіць! Я тут у дыпламаце яшчэ на адзін крок "іншага" прынёс...

**Л. Рублеўская.** Вы прабачце, але гэта... можа быць, залішне, у нас прыстойна-разумныя традыцыі. У нашай гасцёўні розум толькі абуджаюць, а не знішчаюць. З тэмай гутаркі вы ўжо знаёміліся, практычна мы прадоўжым тэму духоўнасці ў творчасці паэтаў. Іван Чарота цярэбіць бародку, нешта хоча сказаць.

**Іван Чарота.** Ну, я іншы раз цераблю, калі свярбіць, але ў дадзены момант сапраўды хачу распачаць гаворку тым, чым закончыў мінулы раз: неабавязкова любы тэкст прыкметнага мастацкага ўзроўню змяшчае духоўнасць.

**Сяргей Патаранскі.** Абавязкова!

**І. Чарота.** Гэта калі блытаць дух і духоўнасць, што раўназначна параўнанню курыных яек з...

**Л. Рублеўская.** Толькі без натуралізмаў, трымайцеся ў інтэлігентным...

**І. Чарота.** Людачка, прабач, але я нічога такога, пра што вы падумалі, і не думаў казаць, я проста хацеў курыныя яйкі параўнаць...

**Л. Рублеўская.** Трымайцеся ў інтэлігентным рэчышчы!

**І Чарота.** Ды я...

**С. Патаранскі.** Колькі яек вы хочаце параўноўваць?

**І Чарота.** Ну, скажам, дзесятак...

**С. Патаранскі.** З такой колькасцю яец нічога натуралістычнага не можа быць. Але пра духоўнасць. Не трэба меркаваць пра беларускую паэзію ў рамках таўшчыні і зместу ўраджаеўскай анталогіі.

**Ганна Кісліцына.** Ці не хочаце, Сяргей, сказаць, што Іван Чарота паленаваўся як след папрацаваць у ролі ўкладальніка?

**С. Патаранскі.** Ды тут і гаварыць не трэба.

**І. Чарота.** Бачыць Бог — якое нахабства! І ён жа мне суддзя...

**Уладзімір Конан.** Сяргей, я штосьці не зразумеў вашай арыфметыкі з яйкамі...

**С. Патаранскі.** А вы раздзяліце дзесятак на пяць і зразумееце!

**Л. Рублеўская.** Уладзімір Міхайлавіч! Ну навошта вам гэтыя праблемы курыныя?

**Віктар Шніп.** Пасёрбайце, калі ласка, гарбаты, а то палеміка нейкая разбэрсаная пачынаецца. Вунь жа цукру паўмяшка.

**В. Нелысагорскі.** Здаецца ж, мяшок прыносіў...

**В. Шніп.** Трошкі дзецям, Вераніцы і Максімку, адсыпаў...

**В. Нелысагорскі.** Ды я нічога, не супроць, распараджайся як хочаш, да таго ж цукар майму цясцю дастаўся дарма.

**У. Конан.** Дзе ж гэта такія месцы, гуманітарная дапамога?

**В. Нелысагорскі.** Ды ёсць...

**В. Шніп.** А сапраўды, дзе?

**В. Нелысагорскі.** У гандлі. Пра цукар раскажу потым.

**Галіна Дубянецкая.** Давайце ўсё-такі пра духоўнасць. Мяне хвалюе такое пытанне: чаго больш у Леаніда Дранько-Майсюка: духоўнасці ці сатанізму?

**У. Конан.** Наколькі знаёмы з творчасцю гэтага літаратара, дык у ёй і тое і другое падаўляецца эратычнай заклапочанасцю. Інтымнасцю. Сексуальнасцю. Варта ўспомніць прысвячэнні, ці як іх там, А.

**Г. Кісліцына.** О, гэта вытанчаная паэзія. Такое можа быць толькі ад Бога. Пашанцавала гэтай А. Цікава, ці будзе нейкі працяг? Можа, яшчэ каму пашанцуе?

**У. Конан.** Вы, як крытык, павінны адчуць, здагадацца, зразумець — аніякага працягу іншым жанчынам не можа быць. Што ідзе за А? Я маю на ўвазе літару.

**Г. Кісліцына.** Ну, Б.

**У. Конан.** У мужчын адносна жанчын Б выклікае...

**Л. Рублеўская.** Уладзімір Міхайлавіч!..

**У. Конан.** Я ў межах дазволенага, пацярпіце, гэта важна. За Б ідзе Г, няхай прабачаць Ганна і Галіна, а потым ёсць Ж, П, нарэшце.

**Л. Рублеўская.** Я нікога не пазбаўляла слова, але...

**У. Конан.** Усё! Пра літары — больш ні слоўца! Адным словам, Леанід Дранько-Майсюк, упэўнены ў гэтым, спыніўся на А беспаваротна.

**Г. Кісліцына.** Вы, відаць, хацелі сказаць — канчаткова, бо ад пачатку няма куды паварочваць?

**У. Конан.** Пачатак іншы раз бывае канцом, але палеміку распачынаць не стану.

**Г. Дубянецкая.** А чаму Іван Чарота маўчыць?

**І. Чарота.** Чаёк во сёрбаю... Наконт Лёні магу сказаць: пладавіты творца! Глядзіце, колькі ён песень напладзіў! Аднойчы давялося пабываць у ягонай кватэры. Колькі ж кніжак асабістых ён "зарэзаў"! Каля ягонага стала стаіць, — спецыяльна палічыў, — васемнаццаць сметніц! Глянеш на бронзавыя шыльдачкі на гэтых сметніцах і душа смыліць: навошта такая патрабавальнасць!

**Л. Рублеўская.** А што на шыльдачках?

**І. Чарота.** Шмат чаго... Ну, напрыклад, такія надпісы: "Слаба!", "Вельмі слаба!", "Дрэнна!", "Паскудства!" Ёсць з літарамі і шматкроп'ямі.

**С. Патаранскі.** З якімі літарамі? І асабістыя свае кніжкі заразае ці асабістыя іншых аўтараў?

**І. Чарота.** Свае. А літары — Г, Х.

**Л. Рублеўская.** Іван Аляксеевіч!..

**І. Чарота.** Людміла, нейкая ў вас сёння рэакцыя, як у манахіні якой.

**Л. Рублеўская.** Дык размова ж павінна быць пра святое!

**І. Чарота.** Але ж у мінулы раз мы гаварылі пра полавыя органы Патаранскага і рэагаванне было спакойным.

**Л. Рублеўская.** Каюся, саграшыла...

**С. Патаранскі.** Вы, спадар Чарота, не утрыруйце: органы не мае. А мае...

**Л. Рублеўская.** О, праміль Божа, ды змяніце пласцінку!

**Г. Дубянецкая.** А давайце пагаворым пра Казіміра Камейшу ці Міколу Мятліцкага, ці Віктара Гардзея, ці Міхася Скоблу, ці пра жанчын-паэтак. Ёсць жа Антаніна Хатэнка, духоўнейшая асоба! Галіна Каржанеўская, Ніна Загорская. Жанчыны, мусіць, амаль усе напоўнены духоўнасцю?

**У. Конан.** Не ведаю як духоўнасцю, а духамі дык дакладна. Вось Рая Баравікова... Раз пастаяў з ёй, паразмаўляў, дык мая супрацоўніца тры дні моршчылася: "Ну й паху вы недзе французскага адхапілі!"

**І. Чарота.** Адкуль у Раі французскія духі? Успомніце, Уладзімір Міхайлавіч, можа, дзе паблізу стаяла Таіса Бондар? Ёй, як рэдактару "Всемирной литературы", маглі якія кітайцы і не такое прыпёрці!

**Г. Кісліцына.** Я дык пра Міколу Шабовіча пагаварыла б. Во дзе цела з духам! Мажны мужчына...

**С. Патаранскі.** Не сказаў бы. Ці ж параўнаеш яго з такімі волатамі, як Гілевіч, Бураўкін?

**Г. Кісліцына.** Дык у іх жа рост! А Мікола ніжэйшы значна і маладзейшы.

**В. Нелысагорскі.** Яно так. Але мы не пра дух і знешнія габарыты прыйшлі гаварыць. Дарэчы, Шабовіч, як глядзіць на жанчын, дык аблізваецца.

**Л. Рублеўская.** Аблізваецца? Гм-м-м... Ён у "ЛіМе" часты госць, а я нешта не заўважала...

**В. Шніп.** Затое я заўважаў! Аблізвацца, можа, і не аблізваецца, а вочы блішчаць! Парадыст наваспечаны... І Пісьмянкоў заўважаў.

**Л. Рублеўская.** У цябе таксама то ўправа, то ўлева бліскаюць часам.

**В. Шніп.** Не выдумляй абы-што! Я калі і гляджу па баках, дык каб удакладніць час.

**Л. Рублеўская.** А чаму глядзіш на жанчын?

**В. Шніп.** Таму, што ў мужчын можа не быць гадзінніка — ці прап'е, ці па п'янцы згубіць.

**Л. Рублеўская.** Прынясі лепш яшчэ гарбаты. А нам усё-такі пара пачаць размову пра Пегаса і пра Музу.

**І. Чарота.** Тут маю анталогію была спроба пакрытыкаваць. А ў ёй — Пегас вязе Музу па святой дарозе. Я адчуваю добра, дзе дарога ў Рай, а дзе ў Пекла.

**В. Нелысагорскі.** Не ўключыць у анталогію "Палесся мілае дзіця" — сорам і грэх. А колькі іншых значных талентаў "кінута!" У той жа час уключаны зусім невядомыя асобы.

**І. Чарота.** Анталогія — гэта зборнік, букет кветак. Якія хацеў — такія збіраў! І ўвогуле я пайшоў! Каб ды больш калі сядзеў у гасцёўні з Ведзьмаком — гэта ж горш, чым сядзець у Пекле на патэльні!

**В. Нелысагорскі.** Вядома, праўда вочы коле.

*Ды без яе, скажу вам я,*
*Нічога людскага ніколі*
*Не выйдзе з нашага рая.*

Чарота пайшоў? Ну, няхай ідзе. А я, здаецца, сказаў праўду. Нам, беларусам, радасці, захаплення, павагі, любові да бліжняга не хапае. Імкнёмся навыперадкі паказацца самі, а іншых не разумеем, не заўважаем, а часценька і прыніжаем. У 1998 годзе з'явілася — не запылілася! — літаратурна-публіцыстычнае выданне, якое склалі Г. Пашкоў і Б. Спрынчан, "Роднасць". Анталогія беларуска-расійскай літаратуры. Дэманстратыўна не ўключаны туды Ніл Гілевіч і Рыгор Барадулін. Няма ў гэтых народных майстроў слова нічога прыдатнага... Ці не па такім прынцыпе дзейнічае і Чарота? Вось і на мінулай "гарбаце" ён аднёс да нехрысціян Купалу. Купалу! Сцвярджаў, што з Яўгеніі Янішчыц робяць не тое, чаго яна заслугоўвае на самай справе.

**Л. Рублеўская.** Спадар Нелысагорскі, дайце сказаць іншым.

**В. Нелысагорскі.** Спадарыня Людміла, дайце паразважаю я, а то на вас накінуцца нізашто. Так, ёсць нямала пытанняў па анталогіях. Анталогія беларускай байкі хлюпенькай атрымалася. У анталогіі беларускай пародыі ляпсусаў хапае. Напрыклад, Міхася Скоблу зрабілі Міхаілам, Анатоля Зэкава — Анатоліем, Януся Мальца — Іванам. Дарэчы, пародыю апошняга "Кантрастныя працэсы" на Анатоля Вярцінскага прыпісалі А. Зэкаву, з-за чаго Зэкаў ледзь не запіў, а бедалага-Малец і зараз не ачомаўся. У Мазго ёсць таксама шэраг пытанняў. Скобла доўга пляваўся і, кажуць, хацеў аддубасіць складальніка Анатоля Кудласевіча, але з-за вядомай гісторыі з міліцыяй — пасля пісьменніцкага з'езда — астыў. Дый рука і нешта яшчэ балела.

**Г. Кісліцына.** Душа, напэўна, балела... Я асцярожна б гаварыла пра тое, што робіць выдавецтва "Ураджай". Дзякуй вялікі ім трэба сказаць за падтрымку беларускай мастацкай літаратуры ў наш складаны час.

**В. Нелысагорскі.** Во-во! Усё гэта павінны былі б рабіць у "Мастацкай літаратуры", але яны там так высока трымаюць планку бездакорнасці, што хутка да яе ніхто і не даскочыць...

**Л. Рублеўская.** Давайце спынімся. Гэта ўжо зусім іншая тэма. А па сённяшняй мы так нічагусенькі канкрэтнага і не сказалі.

**Галіна Дубянецкая.** Мусібыць, пра такія паняцці, як Бог, Сатана, Пекла і Рай, нам, смяротным і грэшным, лепш памаўчаць...

**В. Шніп.** Я гарбату прынёс. Гарачанькая!

**Л. Рублеўская.** А чаму гарбата нейкім бензінам пахне?

**В. Шніп.** Смярдзіць... Як сваім цукрам саладзіў, было ўсё добра. Як пасаладзіў Ведзьмаковым — засмярдзела. І дзе ж твой цесць працуе? Вядзьмак, я да цябе звяртаюся!

**В. Нелысагорскі.** А ты што, хочаш каб бясплатны цукар ружамі пахнуў? Цесць працуе дворнікам ва універсаме. Як прывозяць цукар, дык вельмі многа рассыпаецца праз дзіравыя мяшкі пры разгрузцы. Цесць мой і падмятае, бо дабро не павінна прападаць. Ды не моршчыцеся вы — там двор асфальтаваны і чысты, сам бачыў. Ну, можа, трошкі з машыны бензіну накапала. Не думаю, каб там якога бамжа ў брудным абутку якая трасца насіла.

**Г. Кісліцына.** Мне дрэнна...

**У. Конан.** І мне...

**Г. Дубянецкая.** Ганначка, Уладзімір Міхайлавіч, прапусцілі б вы Патаранскага, а то яго вунь скрывіла і скруціла ў іерогліф нейкі.

**У. Конан.** Калі ласка-калі ласка! А я — на вуліцу! Тут жа каля гасцёўні кусты нейкія, здаецца, ёсць?

**В. Шніп.** Ёсць-ёсць, і харошыя — мне па шыю. Вы ўжо даруйце за сённяшняе няўдалае мерапрыемства! У нашай гасцёўні такое ўпершыню...

**У. Конан.** Не перажывайце, усё добра, гэта ж жыццё, тым больш літаратурнае.

**Л. Рублеўская.** І ўсе прысутныя прабачце!

***На такой горкай ноце закончылася чарговая сустрэча двух прафесараў, чатырох паэтаў, крытыка і "літаратара-універсала" ў знакамітай гасцёўні. Але, шаноўныя чытачы, вышэй насы — працяг абавязкова будзе!***


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Уладзімір МАРУК** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-7985**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**
**Тэл./факс — 284-7965**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2556
Нумар падпісаны ў друк 15.11.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 6739

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12